

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

№ 4 (6) | Красавік 1994 April | Год выд. 2


## ВЯЛІКДЗЕНЬ (ПАСХА)

### *Жыцьцё, Радасьць, Перамога й Надзея*

Калі людзі й народы духова былі яшчэ ў сваім дзіцячым веку, яны разумелі ўсе рухі й падзеі ў прыродзе цьмяна, невыразна, падзіцячаму. Яны, як дзеці наагул, ставілі сабе мноства розных пытаньняў і давалі адпаведныя адказы на іх. Яны бачылі, што пад уплывам сонца прырода ажывае, пакрываецца цудоўнымі краскамі й карыснымі расьлінамі, якія даюць ім хлеб ды іншыя сродкі да жыцьця, прыносяць ім радасьць і задаваленьне, таму й прыйшлі на думку, што сонца й ёсьць творцам усяго, у тым ліку й іхнага жыцьця. Дзеля гэтага ў шмат якіх народаў, у тым й нашага беларускага, паўстала радаснае сьвята Вясны, сьвята сонца, як іхнага дабрадзея й пераможцы над зімою — злом.

Так доўга блудзілі людзі, пакуль Гасподзь Бог не прасьвятліў іхны розум Сваім Духам Сьвятым, не адкрыў ім, што тое сонца, якому яны пакланяюцца, толькі маленькая пясчынка ў бязьмежным сусьвеце, створаным Ім, Тварцом усяго, што мы бачым і што ня бачым. Таму адзіна Яму належыць слава й паклон. Нажаль, яшчэ доўга й пасьля гэтага Адкрыцьця Божага бальшыня народаў прадаўжала прабываць у цемры, акрамя народу жыдоўскага, які верыў ужо тады ў Адзінага Бога Жывога.

Але вось споўнілася поўня часу, і на зямлю прыйшоў Сам Сын Божы, Ісус Хрыстос, каб паказаць усім людзям і народам — Праўду, Шлях і Жыцьцё. Мала таго, Сваім уласным жыцьцём, як Чалавек, Сваею Сьмерцю й Уваскрасеньнем, Ён ня толькі паказаў нам Адзінага Бога Жывога, Сам будучы Ім, але Сваею Крывёю змыў наш грэх першародны, вызваліў нас ад насьледку яго — сьмерці, дараваў нам жыцьцё вечене — **несьмяротнасьць**, і гэтым паказаў нам вялікую **мэту** нашую: вечную й невымоўную радасьць разам з Ім, Тварцом нашым! Хрыстос, Сын Божы, падняў нас з сьвету матэрыі ў сьвет несьмяротнага Духа, адкрыў нам шлях да Неба, даў нам магчымасьць стаць падобнымі Ангелам сьвятым! Што-ж можа быць большым ад гэтага нашага гонару, ад гэтае нашае радасьці?!

Але Ісус Хрыстос, як Бог, добра ведаў, што для духова паўшых людзей вельмі цяжка зразумець гэтае вялікае, слаўнае й радаснае **прызначэньне** іх, гэтую перамогу Духа над матэрыяй, таму Ён збудаваў Сваю Сьвятую Царкву — Сваё Валадарства Божае на зямлі, каб людзі дасканаліліся, расьлі й узмацняліся духова й поўніліся **надзеяй** на асягненьне гэтае велічнае мэты свае: злучэньне з Богам тут на зямлі дзеля вечнага злучэньня з Ім на Небе.

Гэтае ўзьняцьце людзей з цемры да сьвятла, гэтая магчымасьць злучэньня з Усемагутным Богам, радасным рэхам адбілася ў душах шматлікіх народаў, а таксама й нашага беларускага. А таму, што для душы нашай адкрыўся шлях да вышыняў Нябесных праз Сьмерць і Ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, гэтае Сьвята нашае — ВЯЛІКДЗЕНЬ і сталася для нас найбольшым Сьвятам, Сьвятам **жыцьця, радасьці, перамогі й надзеі!**

Гэта запраўды наш **Вялікі Дзень**, таму народ наш і назваў гэтае Сьвята **Вялікаднем**. Адкуль-жа паходзіць назоў — **Пасха?** Назоў гэты не прыпадковы, ён мае свае карэньні ў Старым Запавеце, дзе ён быў сымбалем непараўнальна большага Сьвята — Уваскрасеньня Хрыстовага. Дванаццатая глава 2-ой кнігі Майсея апавядае нам, што Гасподзь Бог загадаў яму, напярэдадні выхаду з няволі Егіпскае, каб у кожнай жыдоўскай сям'і быў заколены бездаганны баранчык, а крывёю яго былі памазаныя дзьверы.

## *ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

## *ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

## РАДУЙЦЕСЯ!



Дзеля чаго? Дзеля таго, што ў гэтую ноч Бог паслаў Свайго Ангела для апошняга пакараньня бязбожнага Егіпскага фараона й народу яго. Ангел праходзіў па ўсіх хатах, пачынаючы ад палацу фараона, і адбіраў жыцьцё ўсяму першанароджанаму, але, бачучы кроў на дзьвярох хатаў жыдоўскіх, каля іх "праходзіў паўз", што пажыдоўску значыць: "пассах", а паангельску: "пассовэр". Таму "пассах" для жыдоў, гэта іхная "Апошняя Вячэра" у Егіпце, і "Пассах" стаўся для іх пасьля ўспамінам вызваленьня іх з няволі. Таму й спажываюць яны яе й цяпер адзетымі ды з кіямі ў руках, як-бы гатовыя ў дарогу, як гэта было тады ў Егіпце, бо-ж у гэтую ноч яны й выйшлі з яго.

Тысячу-ж гадоў пазьней гэты "пассах" стаўся пачаткам Новага Запавету. Ён стаўся Запаветам новае вялікае Ласкі Божае да людзей: ён стаўся **Тайнаю Вячэраю** Спасіцеля нашага й Ягоным выхадам у Сад Гефсіманскі, а з яго на пакуты Крыжовыя. Гэта быў ужо зусім іншы "Пассовэр": тут пралілася кроў не баранчыка, а Самога Сына Божага. Таму й насьледнікі гэтае Ахвяры былі зусім іншыя: вызваленьне з цемры грахоўнае душаў нашых і адкрыцьцё нам ня брамаў места, а — **Дзвярэй Раю!** Хрыстос падняў на Крыж Цела Сваё і праліў на ім Сваю Кроў, таму Ён запаведаў нам праз сьв. Апосталаў на Тайнай Вячэры злучыцца з Ім праз спажываньне Ягонага Цела й Крыві ў постаці хлеба й віна ў сьв. Прычасьці. Тымчасам як у жыдоў і цяпер засталіся сымбалем Запавету — злучэньня з Богам, мяса баранчыка й праснакі, таму й тут розьніца надта вялікая.

Таму-ж, што Тайная Вячэра Ісуса Хрыста з сьв. Апосталамі адбывалася, як кажа нам сьв. Пісьмо, беспасярэдня перад жыдоўскім "пассах", а першымі хрысьціянамі былі пераважна жыды, да таго ў той час усюды панавала грэцкая мова, на якой "Пассах" пісаўся — **"Пасха"**, дык яны ахвотна й прынялі гэты назоў.

Адсюль назоў "Пасха" перайшоў у мовы шматлікіх народаў з невялічкімі зьменамі. Так у французаў: Paques, у італьянцаў: Pasqua, у гішпанцаў: Pascuas у партугальцаў: Pascoa, у румынаў: Pasti, у албанцаў: Pashke. Нават у такіх народаў, як туркі: Paskaliya у армян: Pasek, у грузін: Pask. Цікава, што іншыя германскія народы адкінулі свае паганскія назовы й прынялі іх з сьв. Пісьма. Так Вялікдзень у Галяндыі называецца: Paasch, у Даніі: Paaske, у Нарвэгіі: Paske, у Швэдыі: Pask, у Ісляндыі: Pascar. Таксама цікава, што самыя грэкі ўжываюць для Вялікадня назоў "Лямпра", што значыць, бліскучае, зьзяючае сьвята. З часам гішпанцы пашырылі свой назоў "Паскуас", што ў іх значыць наагул "сьвята", на "Паскуас дэ Рэзурэцiон" — "Сьвята Ўваскрасеньня", а ў некаторых мясцовасьцях Італіі Вялікдзень называюць "Паска дэля уова" — "Сьвята яек", як сымбаль вечнага жыцьця.

Так вось па ўсім шырокім сьвеце хрысьціянскія народы маюць сваё супольнае вялікае Сьвята, сваю супольную радасьць, радасьць жыцьця й перамогі. Таму й сьвяткуецца яно вельмі ўрачыста, фактычна ўжо пачынаючы ад Вербніцы. Апошні, Страстны, тыдзень перад Вялікаднем ужо кожная хрысьціянская сям'я ўважае сьвятым, каб духова й матэрыяльна падрыхтаваць сябе дастойна спаткаць яго. Бязумоўна, асабліва ўрачыста й велічна спатыкаюць яго славянскія народы, а перадусім праваслаўныя, што сталася пад уплывам грэкаў, ад якіх мы перанялі й Вялікоднае прывітаньне: Хрыстос Уваскрос! Запраўды Уваскрос! (Хрыстос Анэсці! Аліцінос Анэсці!).

З усіх-жа славянскіх народаў найбольш урачыста й радасна сьвяткуе Вялікдзень наш Беларускі Народ. Аб гэтай велічы й радасьці Вялікага Дня маглі-б бясконца апавядаць нашыя старэйшыя людзі, якія мелі шчасьце яшчэ малымі сьпяшыць у Царкву, пачынаючы ад Вялікага Чацьвярга, і аж да Сьветлае Заўтрэні ўначы на Нядзелю, а пасьля — валачобнікі, сьпевы й вясёлыя гульні праз некалькі дзён! І радасным рэхам адбівалася яно ў душах і сэрцах малых і старых праз увесь год, каб ад новай Вербніцы зноў рыхтавацца да яго! Таму, хоць усе народы, не зважаючы на свае розныя назовы Вялікадня, бачаць у ім той самы зьмест, і багаты, радасны, містычны сэнс, аднак, чароўнасьць і краса яго найлепш праяўляецца ў чыстай беларускай душы! Бо толькі душа нашага народу поўнасьцю адлюстроўвае зьмест і сэнс Вялікадня: цьвёрдую веру ў перамогу жыцьця над сьмерцю, дабра над злом, праўды над манаю, сьвятла над цемраю, свабоды над зьдзекам і гвалтам, ад якіх мы можа больш ад іншых цярпелі. Таму наш Народ запраўды шчыра й радасна сьпяваў і верыў, што "Сам Хрыстос і ў нас па зямлі хадзіў"... І мы цяпер будзем цьвёрда верыць, што Ён зноў будзе хадзіць па зямельцы Вольнае й Незалежнае Беларусі! **Хрыстос Уваскрос! Запраўды Ўваскрос!** Радуйцеся!!!

С. Клім

«Голас Царквы» — 1955 г.



### АД РЭДАКЦЫІ

Матэрыялы задаўленыя на больш як 30 дзён, рэдакцыя не выкарыстоўвае... Пры дасылцы выразкаў з іншых выданьняў, просім абавязкава падаваць назву і дату публікацыі з якое гэты матэрыял узяты.

Лісты ў Рэдакцыю падпісваюцца толькі ініцыяламі, хіба што аўтар выразна зазначае, што хоча бачыць сваё поўнае прозьвішча.

Просім дасылаць адрасы зацікаўленых чытачоў, - мы вышлем ім некалькі пробных прымернікаў нашае газэты.

ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ Усім нашым дабрадзеем, якія прыслалі пасільныя ахвяры на выдавецтва. Дякуем!!!

Пра ўсе няўвязкі з пачтоваю перасылкаю, просім паведамляць нас неадкладна...

## БЫЛА ТАКАЯ ДЗЯРЖАВА...

"Зьвязда"

### *ДА 76-Й ГАДАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

Не адно дзесяцігоддзе гэта падзея ўспрымалася ў нашым грамадстве неадназначна. Больш таго, яна падзяляла не толькі вучоных і даследчыкаў, а і грамадскія рухі і аб'яднанні на два, так бы мовіць, лагеры, якія ў спрэчках, у сапраўднай барацьбе за сваю праваты нярэдка не выбіралі слоў, «ацэнак» і эпітэтаў... Прадстаўнікі доўгі час «пануючай» ідэалогіі адназначна лічылі факт стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі спробай стварыць буржуазную дзяржаўнасць у Беларусі, а тых, хто стаяў ля вытокаў БНР, называлі не інакш, як беларускімі нацыянал-экстрэмістамі... Аднак надышоў час цвярозага аналізу тых неадназначных, часам супярэчлівых падзей, са спецхранаў і сховішчаў былі абнародаваны «звышсакрэтныя» дакументы, і ацэнкі і вывады пачалі мяняцца, набываць большую рэальнасць, акрэсленасць, праўдзівасць.

... З перамогай Вялікага Кастрычніка аб дзяржаўнасці Беларусі ніхто не вёў гаворкі. Пра гэта ў першую чаргу сведчыў той факт, што ў кіруючыя органы ўлады практычна не ўваходзілі прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці. А калі на наш край пачалося нямецкае (кайзераўскае) наступленне, бальшавікі наогул пакінулі Беларусь сам-насам з ворагам. У пачатку сакавіка 1918 года савецкі ўрад падпісаў Брэсцкі мірны дагавор, у адпаведнасці з якім Беларусь з'явілася свайго роду закладам пад шасцімільярдную кантрыбуцыю, што Масква абавязалася выплаціць Берліну. Але ж раней, на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года Леў Троцкі ад імя бальшавікоў абяцаў, што лёс нашай Айчыны без удзелу прадстаўнікоў яе вырашацца не будзе.

(далей на бач. 2-ой)

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі



(Працяг з бач. 1-ай)

У такіх вось умовах на абарону правоў Беларусі і паўсталі прадстаўнікі народа, абраныя на тым жа Усебеларускім з'ездзе. 9 сакавіка 1918 года выканком Рады з'езда прыняў Другую Статутную грамату да народаў Беларусі, у якой фармальна абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта стала адзіна магчымым у тых умовах адказам на імперыялістычную палітыку кіраўніцтва Расіі і акупацыйных улад кайзераўскай Германіі. Абвяшчалася ўсеагульнае, прамое і роўнае выбарчае права, грамадзянам прадстаўляліся свабода друку, права ствараць палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, прафсаюзы, гарантаваліся права на забастоўкі, свабода сумлення, недатыкальнасць асобы... Зямля, яе нетры, лясы і воды абвяшчаліся ўласнасцю рэспублікі. Зямля перадавалася ў спадчыннае карыстанне таму, хто на ёй працуе. Уводзіўся васьмігадзінны рабочы дзень. Усім без выключэння нацыянальным меншасцям прадстаўлялася права на нацыянальную аўтаномію, а іх прадстаўнікі ўключаліся ў састаў Рады БНР.

Аднак ні ў Расіі, ні ў Германіі Беларуская Народная Рэспубліка была не прызнана. І тады 25 сакавіка 1918-га Рада БНР абвясціла незалежнасць Беларусі ў Трэцяй Статутнай грамаце. Былі ўзаконены заваёвы Лютаўскай і часткова (перадача зямлі сялянам без выкупу) Кастрычніцкай рэвалюцый. Але германскія акупацыйныя ўлады не дазволілі развіцца беларускай дзяржаўнасці. Кайзераўцы перашкаджалі ствараць мясцовыя органы ўлады, не дазволілі мець беларускае войска, суд, паліцыю. Не дазволілі гэта і польскія акупанты ў 1919-м... А калі двойчы — у 1919 і 1920 гадах — абвяшчалі стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі бальшавікі, падзяліцца ўладай, запрасіць у кіруючыя органы прадстаўнікоў рэальна існаваўшай БНР у іх не хапіла мужнасці.

Ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі сёння ўсё больш і больш набываюць рэальнасць, увасабленне ў жыццё. І гэта трэба ведаць і памятаць. Усім і кожнаму з беларусаў.

Жыве Беларусь!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## *РЭЗАЛЮЦЫЯ*

сьвяткавальнага сходу на адзначэньне 76-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, праведзенага ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., у нядзелю 27 сакавіка 1994 году.

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь маюць адбыцца да 26 чэрвеня 1994 году прэзыдэнцкія выбары; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО гэтыя прэзыдэнцкія выбары, калі-б яны былі свабодныя, маглі-б падмацаваць дэмакратыю і палепшыць шанцы на выхад з эканамічнага, сацыяльнага і культурнага крызісу, гэткім чынам узмацняючы мір ды супрацоўніцтва ў рэгіёне; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь афіцыйныя ўлады гвалтуюць правы чалавека і заціскаюць грамадзянскія свабоды, арыштоўваюць ды перасьледуюць дэмакратычных актывістаў і кіраўнікоў свабодных прафсаюзаў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь урад усё яшчэ трымае пад сваім кантролем сродкі масавай інфармацыі, якія недаступныя дэмакратычным партыям і групам, і чыноўніцтва маніпулюе грамадзкую думку,

ДЗЕЛЯ ГЭТАГА мы, удзельнікі гэтага ўрачыстага сходу на адзначэньне 76-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, аднадушна пастанаўляем:

ІНФАРМАВАЦЬ амэрыканскае грамадзтва і амэрыканскія ўлады аб фактах парушаньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь;

ПРАСІЦЬ урад Злучаных Штатаў і адпаведныя амэрыканскія і міжнародныя арганізацыі паслаць у Рэспубліку Беларусь назіральнікаў на час заплянаваных там выбараў, каб прасачыць іхнае правядзеньне;

ПРАЦЯГВАЦЬ ПОШУКІ мэдычнае дапамогі для людзей на Беларусі, што пакутуюць ад чарнобыльскае радыяцыі;

ЗЬВЯРНУЦЬ УВАГУ міжнароднае грамадзкасьці на генацыдныя расстрэлы ў 1937-1941 гадох у Курапатах пад Менскам, дзе ляжыць каля чверці мільёну базьвінных ахвяраў сталінскага рэжыму, ня прызнаных афіцыйнымі ўладамі Беларусі і без пакаяньня гэтых уладаў;

ПАДАХВОЧВАЦЬ амэрыканскіх грамадзянаў, асабліва тых, што маюць сваякоў у Беларусі, наведваць Рэспубліку Беларусь, бо гэткія наведваньні пашыраюць міжнароднае паразуменьне, спрыяюць дзелавым кантактам паміж Беларусяй і Злучанымі Штатамі ды ўмацоўваюць справу дэмакратыі.

# Новая Канстытуцыя — прадукт кампрамісу

"Народная Газета"

**17 сакавіка адбылася прэс-канферэнцыя членаў Канстытуцыйнай камісіі і рабочай групы па падрыхтоўцы праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай Вярхоўным Саветам 15 сакавіка.**

На ёй было адзначана, што ў самы бліжэйшы час тэкст новай Канстытуцыі будзе апублікаваны ў друку і з гэтага моманту яна запрацуе. Прадугледжаны Асноўным Законам Канстытуцыйны суд павінен быць утвораны ў месячны тэрмін з дня ўвядзення Канстытуцыі.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі падкрэслілі, што пры распрацоўцы праекта новай Канстытуцыі перамаглі прынцыпы кампрамісу, разумнага сэнсу. Канстытуцыя асноўваецца на міжнародных пактах, яна замацавала сістэму раздзялення ўлад, прычым, на думку экспертаў, удалося знайсці баланс іх узаемадзеяння.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі адзначылі, што пасаду прэзідэнта, прадугледжаную ў Асноўным Законе, трэба звязваць з функцыямі дзяржавы, а не з канкрэтнымі палітычнымі дзеячамі. Паводле слоў народнага дэпутата Яўгена Глушкевіча, прэзідэнт будзе ўлічваць рэальную расстаноўку палітычных сіл у парламенце пры назначэнні кіраўніка ўрада. Трэба адзначыць, што, згодна з новай Канстытуцыяй, прэзідэнт мае права вета на ўвядзенне законаў, але не мае права роспуску парламента. Па прапанове прэзідэнта, але са згоды Вярхоўнага Савета зацвярджаюцца кандыдатуры кіраўніка ўрада і сілавых міністраў.

Канстытуцыя вызначае не прыярытэт дзяржавы, а з'яўляецца дагаворам паміж асобай і дзяржавай. У ёй таксама прызнана роўнасць усіх форм уласнасці, аднак, як адзначылі распрацоўшчыкі, цяперашні заканадаўчы працэс, што датычыцца банкаўскай сферы, мае сур'ёзныя пытанні адносна закладзеных канстытуцыйных правоў. Артыкулы новай Канстытуцыі, паводле слоў удзельнікаў прэс-канферэнцыі, робяць немагчымым скасаванне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Раздзел аб мясцовым самакіраванні быў названы экспертамі прадуктам кампрамісу. У Канстытуцыі гэты раздзел, можна сказаць, толькі акрэслены. Многія пытанні будуць вырашаны законам аб мясцовым самакіраванні. Канстытуцыя не перашкаджае ў будучыні муніцыпалізацыі мясцовых органаў. Удзельнікі прэс-канферэнцыі асабліва падкрэслілі, што ва унітарнай дзяржаве, якой з'яўляецца Беларусь, павінен быць адзін заканадаўчы орган і мясцовыя Саветы не павінны быць парламентамі.

На думку членаў Канстытуцыйнай камісіі, новая Канстытуцыя будзе працаваць шмат гадоў, хоць, вядома, стаць даўгавечнай, як Канстытуцыя ЗША, не зможа.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**
**Белінфарм.**



## БЕЛАРУСЬ АТРЫМАЛА НОВУЮ КАНСТЫТУЦЫЮ.
### *І ЯШЧЭ АДЗІН СВЯТОЧНЫ ДЗЕНЬ*

**Мікалай ГАЛКО**

Учарашні дзень ужо стаў здабыткам гісторыі, і быў ён не падобны на ўсе астатнія. Большасць дэпутатаў вырашыла адзначыць яго чырвоным колерам у календары, зрабіць святочным. У зале з нагоды прыняцця Асноўнага Закона дзяржавы — Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — адбыўся просты ўрачысты рытуал: дэпутаты ўсталі з месцаў і воплескамі віталі завяршэнне марафонскай заканатворчай дзейнасці. Яна была цяжкай, і неаднойчы гучалі песімістычныя прагнозы, што гэтаму складу Вярхоўнага Савета Канстытуцыі не прыняць. Але змрочны песімізм вымушаны быў саступіць перад рашучымі арганізацыйнымі захадамі дэпутацкай большасці. Працэс зрушыўся з мёртвага пункта, калі да галасавання імяннымі бюлетэнямі прыцягнулі нават зацятых прагульшчыкаў.

Апазіцыя БНФ па-ранейшаму лічыць гэты наватвор незаконным, што падкрэслівалася і ўчора. Асобная думка ўжо не змагла паўплываць на выніі.

Як вядома, усе артыкулы Канстытуцыі былі прыняты раней, але ўчора разглядаўся шэраг паправак — дэпутаты атрымалі яшчэ адну магчымасць палепшыць сваё дзецішча.

Працяглая дыскусія, напрыклад, атрымалася вакол папраўкі Барыса Гетца. Яна тычылася маладых людзей, што заканчваюць дзевяць класаў і вымушаны заставацца без працы. Дэпутат-ветэран настойваў, каб дзяржава гарантавала ім магчымасць атрымаць спецыяльнасць у прафесійна-тэхнічных вучэбных установах і тэхнікумах. "Калі маладых людзей без спецыяльнасці выкідваць на вуліцу, іх падбярэ і зацягне крымінальнае асяроддзе", — гаварыў Барыс Гетц.

У кіраўніка рабочай групы дэпутата Васіля Шаладонава знаходзіліся іншыя аргументы: маўляў, маладыя доўгі час будуць знаходзіцца на ўтрыманні дзяржавы.

У падтрымку прапановы Гетца выступілі дэпутаты розных палітычных накірункаў. Гэта і Ніл Гілевіч, і Васіль Шачак, і Леанід Козік, і Іван Смоляр, і іншыя. І яна стала адной з нямногіх, што ўвайшла ў канчатковы тэкст.

Не абышлося без спрэчак перад галасаваннем за Канстытуцыю ў поўным аб'ёме. Менавіта ў гэты момант Лявон Баршчэўскі аспрэчваў законнасць галасавання імяннымі бюлетэнямі. Уладзімір Грыбанаў засцерагаў ад таго, што будучы прэзідэнт краіны, паводле патрабаванняў Канстытуцыі, будзе залішне залежаць ад Канстытуцыйнага суда. Гэтая акалічнасць, на думку Грыбанава, можа прывесці да паралічу прэзідэнцкага ўплыву. Павел Холад недаўменна пытаў у старшынствуючага на пасяджэнні Мячэслава Грыба, чаму ў такі знамянальны дзень на сесіі адсутнічае прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. У адказ прагучала рэпліка: "Трэба аб гэтым спытаць у яго самога".

І пасля адбылося галасаванне. Яно атрымалася пераможным для большасці — 236 дэпутатаў выказалі сваю падтрымку Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Заканадаўчы механізм даволі складаны. Новая Канстытуцыя патрабуе спецыяльнага закона аб увядзенні яе ў дзеянне. Гэта далёка не фармальны дакумент.

Артыкул першы, напрыклад, абвяшчае, што новы Асноўны Закон уступае ў сілу з дня апублікавання, што дзень прыняцця з'яўляецца святам. Супраць святочнасці змагалася апазіцыя БНФ. Прагучаў нават выраз, што новы дакумент адыграе ролю бомбы, якая знішчыць дзяржаву. Настрой у большасці дэпутатаў не адпавядаў такім заявам. 244 з іх выказаліся за святкаванне сённяшняга дня. Праўда, Мячэслаў Грыб папярэдзіў аматараў урачыстасцей ад паспешлівасці, заявіўшы, што сёння — яшчэ не свята, сённяшні дзень трэба выкарыстаць для далейшай працы.

Пры абмеркаванні восьмага артыкула названага законапраекта, які вызначае тэрміны прэзідэнцкіх выбараў і выбараў Вярхоўнага Савета, дыскусія зацягнулася. У законапраекце запісана, што выбары першага прэзідэнта павінны адбыцца не пазней першага паўгоддзя 1994 г. Тут узнікае даволі істотная недарэчнасць: да канца вызначанага тэрміну засталося тры з паловай месяцы, а новая Канстытуцыя адводзіць на падрыхтоўку вельмі важнага дзяржаўнага мерапрыемства пяць месяцаў.

Васіль Шаладонаў на гэты конт выказаўся, што для першага ў гісторыі прэзідэнта можа быць зроблена выключэнне. Канешне, у парыве эйфарыі зала хутчэй за ўсё згодзіцца з выключэннем. Але ж ці праведны гэта шлях, калі з самага пачатку ён будуецца на выключэннях-парушэннях?

Нельга не сказаць колькі слоў аб самым пачатку ўчарашняга дня, аб раздзеле "Рознае". Валерый Ціхіня выступіў у абарону навукі, назваўшы яе лакаматывам, для якога ў сучасны момант няма паліва.

Дэпутат Іван Авін зрабіў асабісты аналіз "Народнай газеты", у якім не знайшлося ніводнага добрага слова ў адрас рэдакцыі.

Дэпутат Аляксандр Абухаў гаварыў аб праблемах ільнаводства. Хібы прыватызацыі жылля ўскрываў дэпутат Аляксей Ніканчук.

У тым, што ў адной з акруг горада Мінска пачаты збор подпісаў за адкліканне дэпутата, Эрнэст Хацяшоў (дарэчы, ён працуе ў Маскве) бачыць інтрыгі з боку БНФ.

Такім атрымаўся мінулы дзень. А наперадзе яшчэ шэраг важных пытанняў — законапраекты аб выбарах, аб зьмяненнях у банкаўскім заканадаўстве, аб грашова-крэдытнай сістэме і інш. Так што свята святам, а працаваць трэба шмат і вельмі напружана.

**Ігар Сінякевіч**

# Хто?

15 сакавіка Вярхоўны Савет Беларусі прыняў новую Канстытуцыю рэспублікі, якая прадугледжвае ўвядзенне моцнай прэзідэнцкай улады. Паводле Канстытуцыі, прэзідэнт са згоды парламента назначае і вызваляе ад пасады прэм'ер-міністра, міністраў замежных спраў, фінансаў, абароны, унутраных спраў, старшыню Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Астатнія міністры і кіраўнікі вярхоўных структур выканаўчай улады назначаюцца прэзідэнтам без згоды Вярхоўнага Савета.

Прэзідэнт з'яўляецца Галоўнакамандуючым Узброеных Сіл рэспублікі. Ён таксама валодае правам вета, якое пераадольваецца пры паўторным разглядзе законапраекта ў парламенце рашэннем 2/3 галасоў. Прэзідэнт не валодае правам роспуску парламента. Імпічмент прэзідэнту магчымы ў выпадку парушэння ім закона і праводзіцца па рашэнню парламента, прынятага 2/3 галасоў.

У рамках Закона аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі не ўдалося вырашыць пытанне з устанаўленнем гранічных тэрмінаў правядзення выбараў прэзідэнта і парламента. Прапанова правесці выбары прэзідэнта ў першым паўгоддзі 1994 года сабрала 211 галасоў. Гэта больш за 50 працэнтаў (174), але менш за неабходныя 2/3 (231) галасоў. А вось за правядзенне парламенцкіх выбараў у 1994 годзе выказалася нават менш за палову дэпутатаў — 145. І хоць парламентарыям ужо раздадзены праект пастановы аб назначэнні выбараў у Вярхоўны Савет на 20 лістапада 1994 года, зусім магчыма, што датэрміновыя парламенцкія выбары не адбудуцца і дэпутаты захаваюць паўнамоцтвы да сакавіка 1995 года.

З выбарамі прэзідэнта прасцей. Як паказала галасаванне, больш за палову парламентарыяў выступаюць за правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у першым паўгоддзі. Пасля прыняцця Канстытуцыі і Закона аб парадку ўступлення яе ў сілу выбары можна назначыць простай большасцю. У бліжэйшыя дні Вярхоўны Савет разгледзіць Закон аб выбарах прэзідэнта і хутчэй за ўсё назначыць дату выбараў на 26 чэрвеня. Прынамсі, гэтую дату як магчымую называў спікер М. Грыб.

Хто стане першым прэзідэнтам? Патэнцыяльных кандыдатур не так шмат. Па Канстытуцыі і Закону аб выбарах прэзідэнта (ён яшчэ не прыняты) устанаўліваюцца даволі жорсткія нормы для жадаючых балаціравацца на гэтую пасаду: неабходна падтрымка 70 дэпутатаў парламента, ці 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў. Прайсці праз гэтае сіта змогуць нямногія, і іх імёны вядомыя. Без сур'ёзнай боязі памыліцца можна меркаваць, што ў выбарчых бюлетэнях акажуцца імёны Кебіча, Лукашэнкі, Пазняка, Шушкевіча і, магчыма, Карпенкі...

## THE IMPACT OF CHERNOBYL

Please contribute to the publishing of NABAT: THE IMPACT OF CHERNOBYL ON THE PEOPLE OF BELARUS, which was prepared by the distinguished American human-rights organization Freedom House. This is an English-language anthology of news reports and articles taken from the Belarusian weekly newspaper *Nabat*, and chronicles many of the tragedies that the Bylarusian people have endured during the past seven years, including the astronomical increase in various cancers and other ailments, the deaths of the young "liquidators", and the lives of the "squatters" who have returned to their contaminated, abandoned villages.

One of the primary purposes of the book is to show that the small republic of Belarus was hardest hit by the Chernobyl disaster. Aleksander Solzhenitsyn's Russian Social Fund has already paid for the translation costs of this collection, but we need your help in covering the publishing expenses. Your donation will be tax-deductable, and anything that you will care to offer will be greatly appreciated. Please make out your check to freedom House, earmark it "Chernobyl Book," and send it to:

Ludmilla Thorne
Freedom House
120 Wall St.
New York, N.Y. 10005



## Дыяспара

# У суайчыннікаў за мяжой — таксама праблемы

**Надзённыя праблемы нашых суайчыннікаў, якія жывуць у Літве, былі абмеркаваны ў час знаходжання ў гэтай рэспубліцы міністра інфармацыі Беларусі Анатоля Бутэвіча і намесніка начальніка аддзела ўпраўлення Савета Міністраў па сацыяльна-культурнаму комплексу Наталлі Голубевай.**

У час сустрэч з прэс-сакратаром апарату прэм'ер-міністра Вікторасам Баўблісам, у Міністэрстве культуры і асветы, з кіраўнікамі Шальчынінкскага раёна і ў іншых установах і арганізацыях адзначалася, што на сённяшні дзень у суседняй дзяржаве афіцыйна зарэгістравана 6 беларускіх аб'яднанняў, якім яго ўрад, у прыватнасці, Дэпартамент па нацыянальных пытаннях, аказвае падтрымку. Ім прадастаўлены пакой у Доме нацыянальных меншасцей, дзе ёсць агульная зала для правядзення розных мерапрыемстваў. На іх фінансаванне выдзяляюцца і некаторыя сродкі. Тым не менш нашы суайчыннікі больш спадзяюцца на дапамогу з боку Беларусі, як маральную, так і фінансавую. Аб гэтым сведчаць і іх звароты з рознымі просьбамі ў наша пасольства.

Прадстаўнікі Беларусі пабывалі таксама ў тэлеграфным агенцтве ЭЛЬТА, рэдакцыі газеты "Наша ніва", на Літоўскім тэлебачанні, былі абмеркаваны праблемы стварэння сістэмы сродкаў масавай інфармацыі на беларускай мове.

У час наведвання беларускай школы пры вільнюскай сярэдняй школе N 17 Анатоль Бутэвіч уручыў яе калектыву бібліятэчку, якая ўключае больш чым 400 кніг.

**Белінфарм.**

## ANTHONY BIELENIS

One of the founders and pillars of our Bielarusian Byzantine Catholic Church died January 21, 1994, at the age of 85. Anthony Bielenis was among the great leaders of our Bielarusian Community and was an equally significant contributor to our parish life. Until the consolidation of our Sunday Liturgies into a single service, Tony had been our Slavonic "diak" or cantor. In fact at the time of his death he had been designated Cantor Emeritus. Even after he was debilitated by a series of small strokes, Tony continued to walk to church and to sing at the 9:30 a.m. Liturgy.

Anthony Bielenis Bielarus was one of the scholars of our parish. He could hold his own in symposia and presentations with Bishop Česłaus Sipovich, Vaclaŭ Panucevič, Fr. Chrysostom, Bishop Vladimir, or any learned authority who happened to address Bielarusian and ecclesiastical concerns. He was a "partner in crime" with our late great music director Prof. Mykoła Kulikovič. Before the formation of the Bielarusian Coordinating Committee, Mr. Bielenis was the driving force behind the White Ruthenian Society of Illinois. Whenever your administrator had a question about Bielarusian or Byzantine ecclesiastical history or tradition, the unanimous response from the rest of the community was, "Ask Bielenis."

Tony was the confidant of Bishop Vladimir and later of Fr. John McDonnell, our first administrator. There are important documents in parish history that required a signature over and above our late Bishop's. Frequently it was Anthony Bielenis who provided the necessary witness. When I came to Christ the Redeemer and Fr. McDonnell was talking about parish leaders, Anthony Bielenis' name was cited as an excellent source for information and a man of wise counsel.

For most of his life, Tony took care of other people. He watched over his mother-in-law Waleria Budźko and at the same time his brother-in-law Vaclaŭ Panucevič. Both of them predeceased him by a few months or years. He managed the magnificent apartment at 3006 W. Logan and gently but truly fulfilled the role of "spadar."

I can still hear his tenor voice holding up his section in the choir. Now that his work is ended, I am certain he is already secure in his part in the heavenly choir and inspecting the foundations of the pearly gates. He will be missed! Viechnaja Pamiać. Eternal Memory.

## *Secretary of Defense Visited Minsk*

Secretary of Defense W.Perry was on an official visit to the Republic of Belarus March 23, 1994 and held talks with Minister of Defense of Belarus P.Kozlovski. He was also received by the leaders of Belarus.

The issues of the US support for Belarusian efforts aimed at implementation of denuclearization and the realization of the Nunn -Lugar program for the Safe and Secure Dismantlement (SSD) of nuclear weapons were discussed. The US assistance to Belarus under the SSD program reached $ 100 million.

The first meeting of the US - Belarusian Joint Commission on Defense Conversion took place. Secretary Perry announced contracts between American and Belarusian enterprises.

It was stated with great satisfaction that Belarus has been in the forefront of nuclear disarmament among the CIS states. In 1993 Belarus and the US concluded pioneering breakthrough agreements which allowed for extensive cooperation in areas of defense conversion, ecological rehabilitation of former missile sites, etc. Belarus also enjoys advanced cooperation with the US in establishing a tight export control system.

The issue of fair compensation to Belarus for the value of the highly enriched uranium in nuclear warheads was discussed also.

The further development of military-to-military cooperation between Belarus and the US was among important subjects of discussion.

Secretary of Defense W.Perry announced the United States' intention to assist Belarus in carrying out conventional demilitarization. The announced program is the first and unique.

The Partnership for Peace initiative was discussed at length during the talks. Secretary Perry was informed that the issue of the possibility and the extent of Belarus' participation in the Partnership for Peace was being closely studied by Commissions of the Supreme Soviet. According to Defense Minister Kozlovski " today Belarus closely cooperates with the USA and other NATO states". Speaking of PFP developments the Minister stressed:"This will remove apprehensions that the frontier between East and West would lie along the Bug -river.The Berlin wall should not be moved over to our border".

William Perry was received by Chairman of the Council of Ministers of the Republic of Belarus Vyacheslav Kebich. Chairman Kebich highly assessed the Secretary's visit as a sign of considerable changes in bilateral relations.

Secretary Perry also met with First Deputy Chairman of the Supreme Soviet of Belarus Vyacheslav Kuznetsov.

The Document on Principles of US -Belarusian Joint Commission on Defense Conversion was signed by Minister Kozlovski and Secretary Perry.



На прыканцы мінулага году Ўладыка Ізяслаў адведаў Аўстралію. На здымку Ўладыка Ізяслаў, Архіманд. Інаксент і прат. Міхась Бурнос у Царкве ў месьце Адэляйдзе.

## У ПОЛЬШЧЫ ВЫСОКА ЦЭНЯЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ЗАПАЛКІ *"Звязда"*

Нядаўна запалкавая фабрыка ў польскім горадзе Чэхавіцэ паскардзілася ў Міністэрства прамысловасці і гандлю на празмерны імпарт запалак нізкай якасці з краін СНД, Прыбалтыкі і Балгарыі. Дзяржаўная гандлёвая інспекцыя праверыла якасць імпартнай прадукцыі. Вынік праверкі: цалкам забракаваны запалкі з Эстоніі. Доля браку ў польскай прадукцыі — 24,1 працэнта. А найлепшы паказчык, як ні дзіўна, у беларускіх запалак — толькі 20,8 працэнта браку.

Пра гэты факт паведаміў нядаўна ўплывовы польскі бізнес-бюлетэнь «БОСС», які выдае Польскае агенцтва друку (PAP).

**Валянцін ЖДАНКО.**

## Беларуская ваенная акадэмія: пошукі дасканалых форм

*"Народная Газэта"*

**З Гамбурга вярнулася група беларускіх ваенных спецыялістаў, якія займаюцца пытаннямі стварэння ў рэспубліцы ўласнай ваеннай акадэміі.**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН кіраўнік гэтай групы генерал-маёр Віктар Вакар, падчас паездкі беларускія ваенныя наведалі вядучую акадэмію бундэсвера і універсітэт бундэсвера, дзе для патрэб нямецкага войска праходзяць падрыхтоўку спецыялісты адпаведна па ваенных і грамадзянскіх спецыяльнасцях. Асаблівасцю працэсу навучання ў гэтых навучальных установах з'яўляецца яго аператыўнасць. Так, напрыклад, у вядучай ваеннай акадэміі вучоба старэйшых афіцэраў займае ўсяго 14 тыдняў, а афіцэра генштаба — 2 гады. У былых жа савецкіх ваенных акадэміях (а цяпер расійскіх) падобнае раздзяленне адбываецца на ўзроўні розных навучальных устаноў, і тэрмін навучання ў іх дасягае трох гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**



STATE OF ILLINOIS
OFFICE OF THE GOVERNOR
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

March 18, 1994

Greetings:

As Governor of the State of Illinois, I would like to extend greetings to everyone gathered for the opening of the Bielarusian Cultural Display at the James R. Thompson Center, 100 West Randolph, Ground Level, from March 21-25.

It is truly an honor to recognize the Bielarusian American community for the contributions it has made to Illinois. This exhibit, sponsored by the Bielarusian Coordinating Committee of Chicago, will provide Illinoisans and visitors to Illinois an opportunity to learn more about Bielarusia's rich cultural heritage. The acquired knowledge and awareness will benefit all citizens in many ways.

Please accept my best wishes on this special occasion.

Sincerely,

Jim Edgar
GOVERNOR

JE:pm

## З АРХІЎНАГА КУФРА...



РАМЕСНАЯ ШКОЛА Ў СЛОНІМЕ Ў 1943 ГОДЗЕ.
А. Асіпчык з жонкаю былі ў ёй настаўнікамі.

## Жывы Фальклёр!

Анатоль Карчэўскі з Віцебска

*Добра жыць на Беларусі,*
*Так і хочацца спяваць!*
*Не ляцяць сюды ўжо гусі,*
*Бо тут нечага кляваць.*

*Пойдзем, хлопцы, на гешэфты –*
*Распанеем як адзін,*
*Калі мы за шклянку нафты*
*Незалежнасць прададзім.*

*Анатоль АНДРУХОВІЧ*

# Айчына-маці ў кожнага адна

"Беларуская Мінуўшчына"

Час ужо блізкі, калі Беларусь зажыве самастойнаю годнаю дзяржаваю. Возьмемся разам, наблізім яго, будзем з'яднаныя ў дружным паходзе. І адклікнемся на голас Айчыны-маці, што з прочак склікае сваіх дзяцей. Будзем заўжды памятаць: воля -дзеля жыцця чалавека, незалежнасць -- дзеля існавання паважаючай сябе дзяржавы. Гэта заўжды было падмуркам, галоўнай умовай нармальнага чалавечага суіснавання вольных грамадзян, вольнай, незалежнай, суверэннай дзяржавы...

Мы памятаем: род беларускі -- адзіны ў Сусвеце. І маці-краіна адна. Дык паслужым сабе і наступнікам нашым на добрую славу і прыклад. Даруем крыўды, абразы, забыццё. Будзем памятаць сваю найвялікшую ахвярнасць нацыі дзеля здабыцця, альбо захавання свайго гонару, годнасці, нацыянальнага прызначэння.

Пададзім адзін аднаму рукі -- з якіх бы краёў, праз які акіян-мора мы ні паехалі, звернемся да сваіх каранёў, яшчэ і яшчэ пашукаем адказу на хвалюючыя ўсіх нас пытанні: дык хто мы такія, беларусы? Якога роду-племені? Чаму так атрымалася, што амаль кожны трэці з нас -- ляжыць у зямельцы ці з'ехаў у прочкі... Погляд у мінуўшчыну, пэўне, хоць у нечым прыадкрые вочы ўсім нам.

Першым дзяржаўным утварэннем сярод усходнеславянскіх плямёнаў, з гэтым ніхто не будзе спрачацца, з'яўляецца Полацкае княства. Яно ўзнікла ў канцы першага тысячагоддзя, яшчэ да ўтварэння Кіеўскай Русі. Полацкае княства захоўвала сваю незалежнасць на працягу многіх вякоў і нават тады, калі вымушана было зусім непрацяглы час уваходзіць у склад Кіеўскай Русі, а пасля ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Беларусы павінны ганарыцца, што мелі ў часы сярэднявечча сваю магутную дзяржаву -- Вялікае княства Літоўскае са сталіцай у горадзе Навагрудку. Дзяржава ўтварылася ў 1240 годзе ў выніку мірнага зліцця старажытнабеларускага і літоўскага княстваў, а што датычыць сучаснай Літвы, то гэтыя землі ў той час называліся Жэмайціяй (Жмуддзю) і ўваходзілі, як аўтаномія, у Вялікае княства Літоўскае. Сучасная назва "літоўцы", гэтак жа як і "беларусы", прыжылася толькі ў другой палове XVIII стагоддзя. У сярэднявеччы закладваюцца пачаткі дэмакратыі і інстытуты дзяржаўнасці, якія вызначаны ў Статуце Вялікага княства Літоўскага ў XV--XVI стагоддзях, а дзяржаўнай мовай з'яўлялася старабеларуская аж да канца XVII стагоддзя, а пасля яе змяніла польская. Літоўская мова ніколі не з'яўлялася дзяржаўнай за ўвесь час суіснавання княства.

Заключэнне ў 1569 годзе Люблінскай уніі і ўтварэнне Рэчы Паспалітай -- саюзу Польшчы і Вялікага княства Літоўскага -- для беларусаў, як паказалі далейшыя падзеі, мела надзвычай неспрыяльныя вынікі. Назіраецца падзенне прэстыжу беларускай мовы (нягледзячы на тое, што яна яшчэ доўга застаецца дзяржаўнай), пачынаецца засілле польскай мовы і, нарэшце, у прымусовым парадку, у 1697 годзе ў Варшаве рашэннем Сойму беларуская мова забараняецца для выкарыстання ў дзяржаўным справаводстве, а канфедэрацыя 1732 года пазбавіла палітычных правоў і беларускую праваслаўную шляхту.

Падзеі 1772, 1793, 1795 гадоў, прысна вядомыя, як перадзелы Польшчы, у сапраўднасці сталі перадзеламі Рэчы Паспалітай — Літвы і Польшчы, у выніку якіх наша зямля падпала поўнаму расейскаму кантролю. Пачаўся працэс запрыгоньвання вольнага люду -- літвінаў-беларусаў, вынішчэння дзяржаўнасці, свядомага пазбаўлення афіцыйнай гісторыі, мовы, беларускасці -- працэс гэты працягваўся два стагоддзі і паставіў народ наш перад перспектывай стацца адсталым, асіміляваным натоўпам.

Беларусь гвалтоўна ператваралася з палітычна развітой дэмакратычнай дзяржавы з багатай культурай і пэўным спектрам нацыянальнага жыцця ў каланіяльную этнічную тэрыторыю бяспраўнага насельніцтва -- "тутэйшых", у якога адабралі нават назву -- літвіны, а пачалі называць "беларусамі", "заходнімі рускімі". Новыя землі -- "Северо-Западный край" -- кіраваліся царскім урадам як звычайная губерня, а насельніцтва не дапускалася да вырашэння дзяржаўных спраў. Друк на беларускай мове быў забаронены ў 1876 годзе.

Царскі ўрад нічога не рабіў для эканамічнага развіцця сваіх новых губерняў -- адно спраўна збіраў падаткі ды рэкрутаў. Не маючы ніякіх правоў і надзеі на лепшую долю, беларусы самаахвярна выступалі супраць жорсткага прыгнёту. Толькі з 1825 па 1863 год (да сялянскай вайны Кастуся Каліноўскага) адбылося звыш 300 паўстанняў. Яны бязлітасна падаўляліся царскімі апрычнікамі.

Лёс роднае краіны, якая перажывала тады найцямнейшы перыяд сваёй гісторыі, вельмі непакоіў прагрэсіўных людзей тагачаснай Беларусі. Будучы найбольш адукаванымі, яны бачылі, што нельга спыніць Расейскую імперыю ў яе наступе на Захад, у яе імкненні да захопу ўсё новых тэрыторый і запрыгоньвання ўсё новых народаў. І беларусы не прынялі акупацыі, не змірыліся з жыццём у рабстве -- многія з'ехалі з роднае старонкі. Шмат хто выправіўся ў Заходнюю Еўропу, хто праз мора ў Амерыку і нават у далёкую Аўстралію. Беларусь на доўгія гады сталася асноўным рэзервуарам эміграцыі з імперыі. Каля двух мільёнаў беларусаў пакінулі сваю Бацькаўшчыну. Асабліва масавая эміграцыя пачалася перад пачаткам новага стагоддзя і ўзмацнялася аж да першай сусветнай вайны.

Шмат пытанняў узнікае сёння ў нас пра тых нашых суайчыннікаў, якія ў розныя часіны пакінулі родныя хаты, кінуліся шукаць лепшай долі за далёкімі морамі-акіянамі. Дык што ж змусіла іх стаць эмігрантамі? І як склаўся іхні лёс?

Вядома, дапамагчы ў гэтым магла б наша гісторыя, гісторыя беларускай эміграцыі. Але, на жаль, няма ў нас такой гісторыі, як часткі агульнай гісторыі народа.

Дарэчы, да канца XVIII стагоддзя эмігранты былі рэдкія і паадзіночныя асобы. Вялікае княства Літоўскае належала да праўных дзяржаў і яго грамадзянам была адкрыта дарога за межы. Права гэтае, упершыню зарэгістраванае прывілеем Вялікага князя Казімера 1457 года, упісанае ў Статут 1529 года, і давала магчымасць, каб "кожны чалавек рыцарскага і ўсялякага стану мелі вольную моц выйсці з тых зямель Вялікага княства ... для набыцця лепшага шчасця свайго і навечна ... да ўсялякіх зямель чужых, акрамя непрыяцеляў нашых..."

І гэта не была пустая дэкларацыя. Тысячы нашых землякоў пакідалі свой край і вярталіся назад.

Масавыя хвалі палітычнай беларускай эміграцыі пачаліся ад часу заваявання і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі. Рэакцыйная расійская палітыка на Беларусі і стала галоўным фактарам эканамічна-палітычнага заняпаду краю, што спрыяла да масавай эміграцыі.

А калі да гэтага дадаць палітычны тэрор пасля нацыянальна-вызваленчых войнаў 1790-х і 1812 гадоў, паўстанняў 1831, 1863--1864 гадоў, нацыянальныя і рэлігійныя праследаванні, каланізатарскую эканамічную эксплуатацыю ... Дарэчы, яшчэ ў пачатку XX стагоддзя Беларусь характарызавалася вельмі малым прыбыткам на душу насельніцтва. (ЗША — 346 рублёў, Англія—279, Беларусь — 46 рублёў на чалавека).

У канцы XIX стагоддзя, пасля голаду 1888 года, ад беззямелля і беспрацоўя ў ЗША і Канаду накіравалася новая хваля беларускай эміграцыі -- эканамічная. Расійская статыстыка хавае сапраўдныя лічбы. Беларускія даследчыкі ацэньваюць іх прыблізна: Я.Дыла -у мільён асобаў, А.Смоліч-- у 500 тысяч. Лёс гэтай хвалі, як вядома, сумны. Беларусаў не прызнавалі за нацыю і большасць іх альбо асімілявалася, альбо папоўніла сабой эміграцыю польскую і расійскую.

Ну, а затым наступілі часіны, калі беларусам з Беларусі была толькі адна дарога -- на Салаўкі, у Сібір, на Калыму, у зону ГУЛАГаў...

Новая хваля беларускай эміграцыі падпадае падчас другой сусветнай вайны. Але не дужа вялікую колькасць беларусаў, якія воляй лёсу патрапілі за мяжу, нельга ў пэўным сэнсе назваць эміграцыяй -- гэта вайскоўцы савецкай і польскай арміяў, якія патрапілі ў нямецкі палон, а пасля інтэрніраваныя амерыканцамі, а таксама тыя службоўцы, якія зрабілі спробу аднавіць вольную Беларусь ва ўмовах гітлераўскай акупацыі. Галоўнае, што іх усіх характарызавала і з'ядноўвала, -- моцная беларуская нацыянальная свядомасць, незалежніцкая ідэалогія і абсалютная бескампраміснасць адносна камуністычнай сістэмы. Гэта былі тыя, хто свядома ўцякаў ад савецкай сістэмы.

Беларускі вучоны і публіцыст Вітаўт Кіпель зрабіў падрабязную характарыстыку беларускай эміграцыі ў Амерыку. Характэрна, што выязджалі людзі з Беларусі ў прочкі нібыта часова, прынамсі, ім так здавалася,.. а жыццё на чужыне амаль усім ім наканавала іншую долю... І толькі зараз Маці-айчына паклікала сваіх дзяцей з прочак. І яны прыехалі, і са здзіўленнем убачылі, што іх зямля працягвае жыць у дзяржаве, якая рэзка адрозніваецца ад усіх астатніх: такой дзяржавы, дзе людзі цураюцца свайго нацыянальнага, саромеюцца сваёй мовы, сваёй культуры, непаважліва ставяцца да сваёй гісторыі, мусіць, ва ўсім свеце не знайсці. Тры гады як прыняты Закон аб дзяржаўнай мове, а "суверэнная" дзяржава па-ранейшаму на дзяржаўным узроўні карыстаецца чужой мовай... Дык няўжо, каб пранікнуцца любоўю да свайго роднага, зразумець і ацаніць, трэба абавязкова з'ехаць адсюль?

Як воля для жыцця Чалавека, як незалежнасць для існавання дзяржавы, гэтак гістарычная памяць неабходна для народа, каб адчуць духоўную повязь часоў і пакаленняў, гонар за іх справы і здзяйсненні, адказнасць за будучыню сваёй бацькаўшчыны.

Беларусы — не манкурты, страціўшыя сваю памяць і перспектыву. Нельга дапусціць, каб Беларусь ператварылася ў бязмоўнае, духоўна спустошанае, паслухмяна-пакорлівае насельніцтва нейкай бязлікай губерні на карце чарговай імперыі, ці на задворках цывілізаванай Еўропы.

*Добрая з'ява*

# Энцыклапедыя не для паліцы

## Выйшаў у свет першы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Усяго іх будзе шэсць

— Народная Газета

Не належачы да навуковага асяроддзя, спробу навуковага рэцэнзавання новай энцыклапедыі рабіць не стану, але затое дазволю сабе пачаць з анекдота-былі.

Гадоў 25 назад з майго роднага горада Маладзечна афіцыйным пісьмом выклікалі ў сталіцу аднаго партызанскага ветэрана. Ішло выданне 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" — так званай чырвонай, і спецыялістам спатрэбілася сёе-тое ўдакладніць у баявой біяграфіі чалавека. Перамовы прайшлі паспяхова, і ўзрадаваны ветэран узяў ды і кульнуў пару чарак у прывакзальным рэстаране "Вясёлка". І заснуў на лаўцы ў скверыку непадалёк. А тут як на грэх міліцэйскі нарад... Паплечнікі-землякі потым пасмейваліся: вось, маўляў, думаў трапіць у энцыклапедыю, а трапіў у міліцыю.

Смех смехам, але чалавек сапраўды наперажываўся з-за недарэчнага інцыдэнту. Так ужо былі мы выхаваны: энцыклапедыю ўспрымалі перш за ўсё не як спадручную крыніцу універсальных ведаў, а як дзяржпартыйныя святцы, як штосьці кананізуюча-манументалізуючае. І жорстка адсякалася ў такіх вось выданнях інфармацыя, якая "не ўпісвалася" ў дзеючую ідэалагічную схему. Людзі старэйшага пакалення памятаюць, як пасля знішчэння Л.Берыі ўсе (!) падпісчыкі "Большой Советской Энциклопедии" ў СССР атрымалі па пошце вельмі строгае казённае прадпісанне: з адпаведнага тома БСЭ выразаць партрэт тырана і артыкул пра яго, а на вызваленае месца ўклеіць высылаемыя новыя старонкі, дзе ўжо не было ні слова пра Берыю.

...Што ж адлюстравана на 494 старонках першага з запланаваных шасці тамоў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"?

Падзеі і з'явы палітычныя, грамадскія, эканамічныя. Гісторыка-археалагічная, этнаграфічная, архітэктурная і літаратурна-мастацкая спадчына Беларусі. Багатая персаналія. Плюс да гэтага матэрыялы з геральдыкі, нумізматыкі, сфрагістыкі, генеалогіі, гістарычнай картаграфіі — усяго не пералічыць. Важнае крэда выдання, і выкладзена яно ў прадмове памёршага, на жаль, прафесара М.А.Ткачова: "Найбольш поўна адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сучаснасці ў непарыўнай сувязі з гістарычным працэсам на еўрапейскім кантыненце".

Таму ўпершыню на старонках такога выдання прадстаўлена, напрыклад, палітычная эміграцыя. Прадстаўлена незалежна ад ступені віны або заслуг канкрэтных яе прадстаўнікоў і груп перад беларускім народам. Дадзены падзеі, людзі, а ацэначныя меркаванні — гэта прэрагатыва чытача.

Упершыню прадстаўлены аб'ёмны пласт матэрыялаў, якія датычаць рэпрэсій 20—50-х гадоў. Вось адно толькі імя, названае пасля дзесяцігоддзяў невядомасці: Палута (Пелагея) Бадунова — член ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады, дэлегат Усебеларускага з'езда, народны сакратар (міністр) апекі ў Народным сакратарыяце Беларусі, сакратар ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, педагог і асветнік, арганізатар дапамогі маламаёмным слаям насельніцтва, аўтар успамінаў пра А.Бурбіса і Ядвігіна Ш. Расстраляна ў Мінску ў 1938 годзе па абвінавачванню ва ўдзеле ў "аб'яднаным антысавецкім падполлі" (тэрмін, прыдуманы ў НКУС, і "расшыфроўцы" яго, дарэчы, прысвечаны падрабязны артыкул у новай энцыклапедыі). Прыклад таго, што для незаангажыраванай гістарычнай навукі няма і не можа быць закрытых аб'ектаў апісання — артыкул аб падпольнай Арміі Краёвай, 4 з 10 баявых акруг якой дзейнічалі на акупіраванай беларускай тэрыторыі. Нагадаем, што ранейшыя энцыклапедыі выдавецтва "БелСЭ" гэтую тэму замоўчвалі, паколькі ў адрозненне ад немцаў-акупантаў і мясцовых здраднікаў-калабарацыяністаў Армія Краёва не ўкладвалася ў чорна-белую схему, была для афіцыйных савецкіх гісторыкаў аб'ектам надзвычай "нязручным"... Да гэтага ж пераліку можна аднесці артыкул аб Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, іх дзеяннях на беларускай тэрыторыі, адносінах з беларускім нацыянальным рухам.

Несумненная вартасць выдання ў тым, што тут адлюстравана навейшая гісторыя Беларусі — 1986—1993 гадоў. Прадстаўлены постперабудовачныя палітычныя рухі і партыі, людзі, акцыі, даты. Шаснаццаць калонак тэксту і ілюстрацый прысвечаны Беларускаму народнаму фронту. Зусім верагодна, што ў некаторых чытачоў гэта выкліча негатыўную рэакцыю, аднак жа першапачаткова энцыклапедычнае выданне — не грыўня, каб усім падабацца. Дарэчы, артыкул "Арганізацыі РСДРП у Беларусі" займае дваццаць калонак тэксту...

Першы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" выявіў сваю галоўную ўласцівасць: ён — не для параднага стэлажа. Аддрукаваны тыражом ў 20 тысяч экземпляраў, гэты інструмент атрымання ведаў ужо ў рабоце. Пачакаем астатніх тамоў.

**Сяргей КРАПІВІН.**

*"Настаўніцкая Газэта"*

## *ЗЬЛЁТ СКАЎТАЎ*

**Напачатку лютага адбылося пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні Першага Нацыянальнага Джэмбары (злёту) Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў. Аргкамітэт узначаліў сп. Алесь Чарняўскі (Маладзечна). Былі абмеркаваны арганізацыйныя і фінансавыя пытанні. Вырашана правесці Джэмбары з 9 па 15 ліпеня, непадалёку ад Ракава. У ім прымуць удзел таксама скаўты з далёкага і блізкага замежжа.**

У праграму Джэмбары (у перакладзе з індзейскай мовы гэта слова азначае "савет старэйшын") уваходзіць здача дзецьмі іспытаў па розных скаўцкіх спраўнасцях (турыстыка, музычныя здольнасці, фотасправа, кухарства, меддапамога, спартовыя іспыты і інш.), рыцарскі турнір, скаўцкія гульні, запрашаюцца музычныя гурты, карэспандэнты. Таксама адбудзецца абмен вопытам паміж скаўцкімі арганізацыямі.

На тэрыторыі Джэмбарыйскага гарадка скаўты самі будуць рабіць сабе абсталяванне (кухню, сталы, разбіўку намётаў, стэнд і іншае), гатаванне ежы таксама возьмуць на сябе самі скаўты. Кіраўнікі скаўтаў пастараюцца зрабіць усё, каб дзеці змаглі сябе адчуць самастойна, нібыта ўладарамі і гаспадарамі свайго невялікага горада, хай і не на вельмі вялікі тэрмін.

Таксама на Джэмбары з дзецьмі будуць займацца, у час духовай гадзіны, святары розных канфесіяў. Спадзяемся, што гэтую справу мы здолеем правесці на высокім узроўні, каб паказаць свету, што сусветны скаўцкі рух і на нашай роднай Беларусі можа даць свае добрыя вынікі.

Бясспрэчна, што толькі на сваю моц мы не можам разлічваць. І тыя прадпрыемствы і асобы, якія б пажадалі дапамагчы нам у гэтым фінансава, спансіраваць нас, могуць ужо пералічваць свае ахвяраванні на гэтую справу на разліковы рахунак 700322, код 369 у Белпрамбудбанку Мінска ці звязацца ў рабочы час па тэл. (0172) 33-22-52.

**Алег ГРУШЭЦКІ,**
**скаўтмайстар, удзельнік аргкамітэта.**

ЛЮДЗІ ПРАЧНІЦЕСЯ! Ці Вы ня бачыце Сонца Адраджэньня?!

*"Настаўніцкая Газэта"* Васіль ЖУКОВІЧ

# ...ТАКІ ГАЮЧЫ ГОМАН ТВОЙ!

Святыні — гэта не толькі прадметы або месцы рэлігійнага шанавання, пакланення. Святыні — гэта ўсё тое, што асабліва дарагое, свяшчэннае чалавеку. Найпершая святыня — род, сям'я; адна з найбліжэйшых кожнаму чалавеку ў сваім родзе — маці.

Нават самыя светлыя і пяшчотныя словы не могуць выказаць усёй паўнаты пачуццяў, якія абуджае мамін вобраз. Хто сагрэў цябе сваім сэрцам? Мама. Хто адкрыў табе свет, поўны хараства і таямніц? Мама. Хто яшчэ ўмее так, як яна, ціха тужыць у адзіноце, чакаючы дзяцей, радавацца ім, аддаваць апошняе, дараваць за няўвагу?.. І як бы ні пасталелі і як бы далёка ні адышлі дзеці ад родных мясцін, яна застаецца для іх тою ж матуляю — добрай, ласкавай, чулай.

Народная мудрасць нарадзіла нямала яскравых паэтычных выслоўяў пра мацярынскую дабрату, цеплыню: "Пры сонейку цёпла, пры мамцы добра", "Маміна крыло і ў мароз цёплае"... Тут варта для параўнання асэнсаваць народны вобраз мачахі: "Мачаха — як месячык (як зімовае сонца): свеціць, ды не грэе". Пра любоў маці, яе чуйнасць, спагадлівасць, сардэчнасць красамоўна гавораць такія прачулыя словы:"Матчына малітва з дна мора дастане", "Ніхто столькі жалю не мае, як родная матка". А вось адна толькі рысачка бязмежнай матчынай заклапочанасці:"У каго маці радненька, у таго сарочка бяленька". Мудра і пранікнёна гаворыць народ (як непасрэдна, так і ўскосна) пра незаменнасць маці, бацькі:"Цяжка саду без зязюлі, цяжка доньцы без матулі", "Ніхто не ведае, як сірата абедае", "Шануй бацьку з маткай: другіх не знойдзеш". Але дзеці, на жаль, бываюць няўдзячныя:"Маці датуль міла, пакуль пялёнкі мыла", "Як навучыўся, то і пра матку забыўся". Горка бачыць падобнае ў жыцці. З нячулага сына наўрад ці атрымаецца добры муж, бацька, а з нячулае дачкі — добрая жонка і мама. Вось чаму, каб як мага менш было такіх бедаў, гутарку з дзецьмі пра святыні трэба пачынаць з выхавання ў іх пачуццяў любові да маці, да ўсіх родных.

Умела карыстаючыся літаратурнымі і фальклорнымі творамі, педагогі папярэджваюць амаральнасць паводзінаў. Дзеці вераць надрукаванаму. Таму варта, праводзячы віктарыны, гульні, а таксама конкурсы на лепшага дэкламатара, спевака, знаўцу вуснай народнай творчасці, даручаць ім вучыць на памяць і выконваць вершы, песенькі, прыказкі і прымаўкі. Няхай як словы запаведзі і як засцярога гучыць для іх прыказка:"Бацька і маці ад бога ў хаце, хто іх зневажае, дабра не знае". Няхай да іх даходзіць, якім ёлупнем выглядае дзіця з амаральнымі паводзінамі:"З матчынае песні засмяяўся — як без галавы застаўся".

Наступная святыня пасля роду, сям'і, пасля маці — родная мова. Так, мова — не толькі сродак абмену думкамі, паразумення, узаемінаў паміж людзьмі, яна найперш — нацыянальная святыня. Мова — самы дарагі і ўнікальны скарб, які сучаснікі проста абавязаны, атрымаўшы ад продкаў, перадаць нашчадкам. Толькі цемрашал, у каго ў душы няма нічога святога, можа трызніць двухмоўем у дзяржаве, дзе 80 працэнтаў жыхароў складаюць людзі карэннай нацыянальнасці і дзе таталітарны рэжым давёў да заняпаду нацыянальную свядомасць. У нашых гарадах, дзе пражывае абсалютная большасць народу, беларусы адвучыліся, адвыклі карыстацца сваёй моваю. Сітуацыя, па сутнасці, ужо трагічная. Тут толькі выключна спрыяльная нацыянальная палітыка, самаахвярнае служэнне ідэі Адраджэння можа выратаваць наш этнас. Што ж да злачыннай палітыкі двухмоўя, то яна ў такіх умовах нанесла б нацыі смяртэльны ўдар. Зрэшты, нам да двухмоўя яшчэ далёка: усюды пануе адна — суседняй дзяржавы —мова. І не дай бог атрымаць ёй статус дзяржаўнай побач з беларускай, калі ў нас такі слабы шанс акрыяць.

Заняпад нацыянальнай свядомасці прыводзіць у заняпад і чалавечую годнасць. Цяпер многіх беларусаў, у тым ліку і многіх настаўнікаў, не дужа хвалюе ўласная безаблічнасць, абруселасць — яны заклапочаны тым, як бы спакойна прыстасавацца да новых павеваў, дацягнуць да пенсіі ды забяспечыць сябе кавалкам каўбасы. Многіх галеча, жабрацкія аклады прымушаюць займацца сваёй гандлярскай "палітыкай", назва якой — купі-прадай. Сусветная супольнасць не падніме нашу годнасць, не знізіць нашу ганьбу перад усім светам. Разлічвайма на сябе. Мусім руйнаваць кансерватыўнасць школы. Мусім прывучаць беларусаў змалку думаць па-беларуску (толькі тады яны і загавораць па-людску), мусім аб шырыні душэўнай дбаць. Будзем памятаць, што ў народзе духоўнае заўсёды было вышэй за матэрыяльнае:"Не частуй мяне ні піўцом, ні вінцом, а прывітай мяне шчыранькім слаўцом", "Слова даражэй шае за грошы". Дзякуючы не якой-небудзь чужой, а толькі роднай мове народ замацоўвае і перадае сваю мудрасць, нормы, запаведзі сваёй маралі:"Слова — свята", "Слухай многа, а гавары мала", "Слоўка як птушка: выпусціў — не вернеш". Толькі ў стыхіі роднай мовы мы адчуем эстэтычную асалоду ад хараства і трапнасці народнага выразу, афарызма:"Сказаў, як звязаў", "Рынуў слоўцам, як перцам", "Умелая прыказка, як пры мяшку прывязка", "На чужы раток не накінеш платок".

Мову часта называюць душой народа. Трапнае азначэнне. А вось што аднойчы сказаў Ядвігін Ш.:"Родная мова — гэта кроў народа: пакуль жыве яна — жыве народ". Як бы яе ні называлі, яна найперш — святыня, адрачэнне ад якой роўнае здрадзе. Ва ўсім свеце людзі на сваёй мове думаюць, размаўляюць, моляцца, спяваюць. Ну а хіба беларусы — вырадкі?..

Тэма Радзімы мною распрацавана ў раздзеле пра Бацькаўшчыну "Белы ручнік мой, белы абрус..." (НГ за 13.11.93). Ну а тут я звяртаю ўвагу чытачоў на тое, што Радзіма — адна з нашых святыняў. Гэта сцвярджаю ў сваіх вершах.

Сярод агульнанацыянальных святыняў — герб і сцяг. Так, герб — не толькі распазнавальны знак дзяржавы, сцяг — не толькі ўмацаванае на дрэўку палотнішча, якое служыць эмблемаю дзяржавы, пра што можна прачытаць у слоўніках. Дзяржаўны герб і сцяг — найперш святыні нацыі, пра што чамусьці мала дзе можна прачытаць і пачуць. Такія святыні мае кожная краіна. Натуральна, яны ўсюды розныя, адметныя.

З даўніны, з глыбіні стагоддзяў да нас, беларусаў, дайшлі бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня-герб. Яны як бы данеслі дыханне нашай старажытнай гісторыі. Што ж такое Пагоня? Што за выява на айчынным гербе? Конны рыцар, узброены шчытом з залацістым шасціканцовым крыжам і магутным вострым мечам. З яго вуснаў, хутчэй за ўсё, сышоў трывожны і рашучы кліч:"Пагоня!". Кліч такі нашым продкам сведчыў, што Бацькаўшчына ў небяспецы, трэба вызваліць яе ад захопнікаў і здрады суайчыннікаў, якая не менш небяспечная за адкрытую варожасць чужынцаў. Пагоня — сімвал моцы, мужнасці і самаахвярнасці беларусаў, нашага старажытнага народа. Трэба згадаць: пад знакам Пагоні воіны-беларусы выходзілі пераможцамі з бітвы з крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 годзе, атрымалі таксама бліскучыя перамогі ў бітвах пад Варнаю (1444 г.), пад Оршаю (1514 г.) і яшчэ шмат у якіх баях. Выява пагоні на бел-чырвона-белых харугвах натхняла на змаганне і паўстанцаў мужнага Кастуся Каліноўскага.

Сцяг незалежнай Беларусі — легендарны. Пра яго ёсць цудоўная легенда, якую згадвае Вінцук Вячорка ў сваёй святочна-прыгожай і мужнай кніжцы "Пра герб і сцяг". Наш сцяг — бел-чырвона-белы. Белы і чырвоны колеры беларусы любілі і шанавалі спрадвеку, чырвонымі ніткамі вышывалі і вышываюць свае бялюткія кашулі і ручнікі. Чырвоны колер сімвалізуе любоў, адвагу, мужнасць, а белы — чысціню, веру, свабоду. А ці не багатая такімі якасцямі — любоўю і чысцінёй, верай і адвагаю, памкненнем да свабоды і мужнасцю — і душа беларуса? Вядома, багатая. Менавіта таму бел-чырвона-белы сцяг, як і герб Пагоня, стаў нашаю святыняю.

Яшчэ адна святыня — храм, але не толькі той, дзе вядуцца набажэнствы. Няхай дзеці ведаюць, што для многіх людзей з'яўляецца святым храм навукі, яшчэ для многіх — храм мастацтва, храм культуры — выхаваем не фанатычную, а гарманічную асобу. Я ж прапаную верш, прысвечаны менавіта храму вернікаў, бо вельмі шмат прынёс нам шкоды ваяўнічы, разбойны атэізм.

Сапраўдным носьбітам духоўнасці чалавек не можа стаць без праўдзівай кнігі. Нездарма ў народзе кажуць:"Да чаго не дайду, то я ў кніжцы знайду". Сустрэча з прыстойнай і змястоўнай кнігаю — сустрэча з крыніцай духоўнасці. Кніга выхоўвае пачуцці, любоў да ўсяга прыгожага, чалавечнага, святога, бо яна — святыня.



## Па вашай просьбе

*Якія рэлігійныя святы будуць ў гэтым годзе адзначаць веруючыя асноўных канфесій, што існуюць на Беларусі?*

***Ігнат МАСЛОЎСКІ.***

*Бешанковіцкі раён.*

Ёсць святы, якія адзначаюць веруючыя ўсіх канфесій, а ёсць такія, якія характэрны толькі для той ці іншай канфесіі. Вось асноўныя святы, якія яшчэ ў гэтым годзе будуць адзначацца насельніцтвам нашай рэспублікі.

**Праваслаўныя і стараверскія**

| | |
|---|---|
| Вербная нядзеля | 24 красавіка |
| Вялікдзень | 1—2 мая |
| Радаўніца | 10 мая |
| Ушэсце | 9 чэрвеня |
| Сёмуха (Троіца) | 19 чэрвеня |
| Духаў дзень | 20 чэрвеня |
| Дзень Пятра і Паўла | 12 ліпеня |
| Спас | 19 жніўня |
| Успенне | 28 жніўня |
| Нараджэнне Маці Божай | 21 верасня |
| Узвіжанне | 27 верасня |
| Пакровы | 14 кастрычніка |
| Увядзенне ў храм Багародзіцы | 4 снежня |

**Каталіцкія**

| | |
|---|---|
| Благавешчанне | 25 сакавіка |
| Вербная нядзеля | 27 сакавіка |
| Вялікдзень | 3—4 красавіка |
| Ушэсце | 12 мая |
| Духаў дзень | 22 мая |
| Сёмуха (Троіца) | 29 мая |
| Дзень Пятра і Паўла | 29 чэрвеня |
| Спас | 6 жніўня |
| Успенне | 15 жніўня |
| Нараджэнне Маці Божай | 8 верасня |
| Узвіжанне | 14 верасня |
| Усіх святых | 1 кастрычніка |
| Задушны дзень | 2 кастрычніка |
| Нараджэнне Хрыстова | 25 снежня |

**Пратэстанцкія**

| | |
|---|---|
| Вербная нядзеля | 24 красавіка |
| Вялікдзень | 1—2 мая |
| Ушэсце | 9 чэрвеня |
| Троіца | 19 чэрвеня |
| Спас | 19 жніўня |
| Свята жніва | 25 верасня |

**Іудзейскія**

| | |
|---|---|
| Песах | 27 сакавіка |
| Троіца (Шавуэс) | 16 мая |
| Новы год (Рош-Ашана) | 6 верасня |
| Іом-Кіпур (Судны дзень) | 15 верасня |
| Сукот (Кушчы) | 20 верасня |
| Сімхас Тора | 28 верасня |
| Ханука | 28 кастрычніка |

**Мусульманскія**

| | |
|---|---|
| Курбан-Байрам | 21 мая |
| Хіджра (Новы год) | 11 чэрвеня |
| Маўлід | 20 жніўня |

*"Народная Газэта"*

"Народная Газэта"

# Пра наш "Мір" даведаўся свет

**Знакам і дыпломам "Еўропа Ностра" ўзнагароджаны праект рэстаўрацыі замкавага комплексу "Мір". "За выратаванне аднаго з найбольш значных помнікаў замкавай культуры Беларусі, рэстаўрацыю яго часткі і адпаведную рэканструкцыю" — так запісана ў рашэнні гэтай аўтарытэтнай еўрапейскай арганізацыі, што аб'ядноўвае больш за 200 няўрадавых рэстаўрацыйных структур і ўзначальвае якую дацкі прынц.**

У мінулым годзе 19 краін Еўропы прадставілі ў штабкватэру арганізацыі ў Гаазе больш чым 150 праектаў, з якіх выбраны як лепшыя толькі 45. У іх ліку быў і наш, перададзены для экспертнай ацэнкі Міжнароднай арганізацыі беларусістаў, — каменціруе гэты факт навуковы кіраўнік і аўтар праекта, старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па ахове культурна-гістарычнай спадчыны, намеснік міністра культуры Беларусі Дзмітрый Бубноўскі, дарэчы, сам ураджэнец пане збіраемся. Па-першае, выкарыстаем цалкам сродкі, выдзеленыя на рэстаўрацыйныя работы ў Міры ЮНЕСКА, па-другое, не адмовімся ад дапамогі прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў далёкім замежжы. І, нарэшце, прадоўжым намаганні па стварэнню асобнага праекта "ЮНЕСКА—Мірскі замак" — пратакол-мемарандум наконт гэтага быў падпісаны ў час візіту ў Беларусь генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра Сарагосы.

Мірскі замак — не адзіны комплекс, аднаўленне якога становіцца справай гонару нацыі, прадоўжыў каментарый Дзмітрый Бубноўскі. Распрацоўваюцца праекты рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры на Навагрудчыне, Лідскага замка, Старога замка ў Гродне. Трывогу ў спецыялістаў выклікае стан Сафіі сёлка Мір. — Сёння ў замку практычна завершана рэстаўрацыя дзвюх веж. У адной з іх ужо адкрыта музейная экспазіцыя, другая падрыхтавана да прыёму экспанатаў Нацыянальнага мастацкага музея рэспублікі, які і будзе гаспадаром большай часткі адроджанага комплексу. Заканчваюцца падрыхтоўчыя работы да рэстаўрацыі паўночнага корпуса замка, але сродкаў з дзяржбюджэту, выдзеленых на работы, хопіць хіба што да мая месяца. І усё ж сядзець склаўшы рукі мы Полацкай. Што ж датычыць нясвіжскага комплексу, то, як вядома, рашэнем беларускага ўрада ён аб'яўлены гісторыка-культурным запаведнікам. Яго будучыняй заклапочаны і міжнародны фонд "Нясвіж", і створаная згодна з міжнароднымі дагаворанасцямі беларуска-польская кансультацыйная камісія, узначаліў якую цяпер ужо вядомы ў рэспубліцы князь Анджэй Ціханавецкі з Лондана. Калі, нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, мы адновім цудоўныя тварэнні продкаў, падкрэсліў Дзмітрый Сямёнавіч, то вернем нашай радзіме славу цэнтра старажытнай цывілізацыі, павагу ўсяго культурнага свету.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА,**
**Белінфарм.**

# Лепшы ў свеце хор прапісаны ў Мінску

***Георгій ЗАГАРОДНІ***

*"Рэспубліка"*

Бясспрэчна, што за апошнія некалькі гадоў шырмаўская капэла пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў РБ Людмілы Яфімавай набыла нібыта новае дыханне. Дзякуючы нястомнай працы валявой інтэлектуальнай жанчыны-дырыжора гэты самабытны калектыў значна пашырыў канцэртны рэпертуар лепшымі ўзорамі сусветнай музычнай класікі, а галоўнае — знайшоў нестандартныя падыходы да раскрыцця зместу шматлікіх харавых партытур.

У гэтых адносінах вельмі характэрным і ўражлівым быў канцэрт нашай капэлы ў адзін з нядаўніх вечароў у галоўнай зале Белдзяржфілармоніі. Яго праграма, цалкам разлічаная на спевы без інструментальнага суправаджэння /a cappella/, складалася ў асноўным з малазнаёмых для сённяшніх слухачоў твораў рускай духоўнай музыкі, а таксама беларускіх народных песень у аўтарскай апрацоўцы, узятых з фальклорнай анталогіі Р.Шырмы.

Напэўна, многія ведаюць, што духоўная музыка ў нас на працягу дзесяцігоддзяў незаслужана замоўчвалася і знаходзілася пад найстрашэйшым ідэалагічным "прэсінгам". Толькі цяпер яна атрымала рэабілітацыю і выйшла да масавага слухача. Між іншым, на рэлігійныя тэмы шмат пісалі самыя выдатныя кампазітары розных часоў і народаў, пакінуўшы будучым нашчадкам сапраўдныя шэдэўры харавога мастацтва. У гэтым можна было пераканацца, слухаючы ў глыбока прадуманай інтэрпрэтацыі шырмаўскай капэлы харавыя песнапенні старых маістроў А.Архангельскага, А.Грэчанінава, П.Часнакова. Духоўную музыку не забывалі і сучасныя кампазітары. У мінулым канцэртным сезоне Акадэмічная капэла імя Р.Шырмы ўпершыню пазнаёміла мінчан з араторыяй "Літургічныя песнапенні", напісанай пецярбургскім кампазітарам Юрыям Фалікам на тэксты старадаўняга "Малітваслова". Увогуле гэта была прэм'ера зусім новай музыкі, якая прайшла з вялікім поспехам, што і з'явілася падставай для паўторнага ўключэння асобных фрагментаў араторыі ў сёлетнюю праграму. Клапатлівыя адносіны да аўтарскай задумы, глыбокае пранікненне дырыжора Людмілы Яфімавай і беларускіх выканаўцаў у саму сутнасць харавога манументальнага твора дазволілі ім з прываблівай шчырасцю і душэўным парываннем адлюстраваць вакальнымі сродкамі гарманічную прыгажосць, інтанацыйную свежасць мелодый і ўсю разнастайную палітру шматгалосай акапельнай партытуры.

Канцэртная дзейнасць беларускіх спевакоў набывае ўсё большую папулярнасць і прызнанне ў блізкім і далёкім замежжы. Поспех на фестывалі харавога мастацтва ў Маскве, першае месца сёлета на ўсееўрапейскім конкурсе прафесійных хораў у Польшчы, штогадовыя выступленні ў Вялікай зале Пецярбургскай філармоніі - - усё гэта сведчыць аб высокім выканаўчым майстэрстве нашай Акадэмічнай капэлы і яе галоўнага дырыжора. Нездарма ў час паспяховых іспанскіх гастроляў калектыву мадрыдскае радыё назвала Людмілу Яфімаву "кіраўніком лепшага ў свеце хору". Што і казаць: высокая адзнака.

*Паважаныя Чытачы! Дайце пасільную ахвяру на «Беларускі Дайджэст»...*

# „САМАЯ ПЛЁННАЯ — ІДЭЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ"



ДЫЯЛОГ З ВАСІЛЕМ БЫКАВЫМ ВЯДЗЕ КРЫТЫК МІХАСЬ ТЫЧЫНА.

"Беларусь" № 1, 1994



**— Палітычная кан'юнктура змяняецца так шпарка, што ўгадаць можна толькі агульны ход падзей. Аднак за тым, што адбываецца сёння, адчуваецца блізкая прысутнасць бяздонных метафізічных глыбінь. Яны жывуць паводле сваіх не вядомых нам законаў і моцна ўздзейнічаюць на нашы пачуцці, думкі і ўчынкі. Можа, гэта «тайна» беларускай душы, нашай гісторыі, нацыянальнага лёсу. Але відавочна, што сучаснасць кладзецца на гатовую матрыцу душэўнага складу беларусаў, абвостранай пачуццёвасці народа да многіх з'яў і рэчаў, што ў канчатковым выглядзе і вырашае ўсё астатняе. Васіль Уладзіміравіч, што вы думаеце пра «загадку» беларускага характару, яго гісторыі, магчыма, самой будучыні!**

— Беларускі народ, ягоная нацыянальная адметнасць, вядома ж, створаны і выхаваны нашай гістарычнай мінуўшчынай. Хоць, як паказаў гістарычны вопыт, нават і для мінуўшчыны беларускі характар быў мала адэкватны. Болей адэкватнымі аказаліся характары іншых народаў, у тым ліку і нашых суседзяў. Беларусы ж за столькі стагоддзяў нават не здолелі вызначыцца на дзяржаўным узроўні і страцілі ці не ўсё набытае ў ранейшыя часы высілкамі іхніх продкаў. Мабыць, усё ж і тая мінуўшчына — не наша стыхія. Цяпер застаецца спадзявацца на будучыню, і ўся справа ў тым, якім чынам дамагчыся тае шчаслівай будучыні. Ці беларусы яе запрацуюць самі, ці (як небеспадстаўна спадзяюцца некаторыя) нам яе ўпалююць іншыя. Найперш, вядома, расейцы. Увогуле, гэта дужа выгадна, калі нейкае дабро здабываюць для вас чужымі рукамі, але і дужа ненадзейна тое. Што лёгка прыходзіць, тое лёгка і мінаецца. Асабліва такія найважнейшыя справы, як дзяржаўнасць, нацыянальная суверэннасць, за якую звычайна народы плацяць немалую цану. Але мы празмерна талерантныя і абачлівыя, асабліва перад такой татальнаю сілай, якой з'яўляецца камунізм, што ў XX стагоддзі, хай часова, апынуўся мацней за двухтысячагадовае хрысціянства. Бо абапіраўся найперш на рэвалюцыйную мэтазгоднасць і безаглядны прагматызм. І грэбаваў хрысціянскай мараллю, быў цалкам ад яе вольны. А як вядома, адсутнасць маралі, стаўка на фізічную сілу была рашучай перавагай ва ўсёй гісторыі — ад заваёўнікаў-гунаў да чырвоных кхмераў. Усё тое — урокі гісторыі, але, здаецца, што датычыць беларусаў, дык тых урокаў было ім замала. Яны яшчэ мала навучыліся ў гісторыі, яшчэ трэба вучыцца і вучыцца. І тут справа за вучыцелямі. Добра, калі тая навука трапіць у здатныя рукі. А калі зноў, як раней, ёю завалодаюць паплечнікі ці нашчадкі Абэцэдарскіх, зычнанахабныя галасы якіх дасюль не сціхаюць на нашым навуковым алімпе.

**— Краіна можа патанаць, як сёння, у акіяне друкаванай прадукцыі, не пазбаўленай вучонай эрудыцыі, вобразнай фантазіі, журналісцкай вастрыні, і ўсё ж у яе не будзе ніякага духоўнага жыцця ў строгім сэнсе гэтага паняцця, аніякай літаратуры і культуры. Усё ж, мабыць, «сырое», незавершанае, жывое жыццё атрымлівае толькі тады цану, калі на яго паглядзіць пільна мастак і ўвасобіць у плоць і кроў нацыянальных тыпаў. Менавіта яны дастаюцца ў спадчыну нашчадкам як паэтычны вобраз пройдзенага, пражытага кавалка гісторыі. Ну, што ведалі б мы пра зыход яўрэяў з «егіпецкай няволі», калі б не было Старога Запавету! Або пра старажытных грэкаў, калі б не існавала Гамера, Эсхіла, Платона! Магчыма, падарожжы многіх грэкаў былі куды больш небяспечнымі, чым плаванне Адысея, але помнім мы і ведаем менавіта пра яго прыгоды. Здаецца, усё лепшае, што захавалася ў памяці чалавецтва, было ўратавана, замацавана, данесена да нас на гэтых не дужа дасканалых плытах, што плывуць і плывуць па рацэ Леце. У чым, на Вашу думку, найвышэйшы сэнс існавання літаратуры як мастацтва слова! Якое месца яна займае сёння ў жыцці беларусаў і якое месца павінна займаць, магчыма, ужо заўтра!**

— Ну, вядома, жыццёвыя праявы толькі тады набываюць закончанасць, калі асэнсоўваюцца і адпаведна інтэрпрэтуюцца мастацтвам. Калі яны робяцца метафізікай культуры і адкладваюцца ў геннае памяці нацыі. Без таго яны, якія б значныя ні былі, толькі матэрыял, патэнцыяльны ракурс гісторыі і знікаюць з яе па меры таго, як марнеюць у эмацыянальнай памяці пакаленняў, што іх перажылі. Нават калі і перажылі ў моры крыві, з вулканамі нервовай энергіі. Занатаваныя ў летапісах ды іншых гістарычных помніках, яны часткова здольны захавацца, як бы закансервавацца, але, не заўжды запатрабаваныя, не робяцца духоўным набыткам нацыі. Кожнае пакаленне, вядома, жыве з уласных праблем, незалежна ад таго, дужа значнымі, ці не, тыя з'яўляюцца. Для кожнага наступнага пакалення ягоныя праблемы натуральна самыя важныя з усяго да іх перажытага. І толькі мастацтва (літаратура, выяўленчае мастацтва, музыка) можа аднавіць іх ранейшую моц, зрабіць мінулае сённяшнім, ажыццявіць повязь часоў, без чаго немагчыма паслядоўная хада гісторыі.

Што ж тычыцца беларусаў, дык сталася так, што наша гісторыя дайшла да нас як сума розных урыўкаў, пункцір падзей, на падставе якіх робіцца вельмі праблематычным стварэнне агульнай выявы. Зноў жа з меркавання абачлівасці і гістарычнай мэтазгоднасці мы пазбавіліся ў гістарыяграфіі важнейшых з'яў і падзей, выключылі іх з нацыянальнага ўжытку і, несумненна, тым збяднілі нашу духоўнасць. Нашая духоўная ментальнасць у гады таталітарызму набыла універсальна-безаблічны, савецкі характар. Інтэрнацыяналісцкі, як сцвярджалі бальшавікі, для якіх тое было мэтай. І ў немалой меры таму садзейнічала мастацкая літаратура, віна якой (не ў прыклад яе заслугам) перад нацыяй яшчэ не даследавана як належыць. Мабыць цяпер найпершая задача як літаратараў, так і навукоўцаў скрупулёзна дазнацца, чым для нас быў 70-гадовы перыяд таталітарызму, што страціла нацыя за тыя гады ў сферы культуры, чаго не набыла, хоць магла і павінна была набыць, і адсутнасць чаго будзе адчувацца яшчэ доўга. Бо такое ў гістарычным маштабе хутка не мінаецца і без шкоды не абыходзіцца.

**— Саюз пісьменнікаў Беларусі сёння налічвае каля 400 сяброў. Але ствараецца ўражанне, што іх наогул няма ў духоўным жыцці народа. Яны, як і раней, выпускаюць друкаваную прадукцыю, працуючы, накшталт ваенных заводаў, што ніяк не паддаюцца канверсіі, па сутнасці, на склад. Чаму так здарылася, што людзі, надзеленыя ў той ці іншай меры талентам, апынуліся, калі не ў хвасце падзей, дык, прынамсі, на абочыне! Метамарфозы, якія адбыліся з сім-тым, не толькі здзіўляюць, але здаюцца незразумелымі, нелагічнымі. Скажам, увесь свет сёння прызнаў як відавочнае крах камуністычнай ідэалогіі з яе варожасцю да жывога чалавека, несумяшчальнасцю з паняццямі «творчасць», «нацыя», «духоўнае жыццё». А ў нас аднаўляецца бальшавіцкая партарганізацыя, і заяву аб яе стварэнні падпісвае ледзьве не сотня літаратараў! Або вось яшчэ прыклад: наша магутная суседка Расія, так ці інакш, аднак жа рухаецца па шляху рэформ. А ў гэты ж самы час кіраўнікі некаторых творчых саюзаў заклікаюць у сваіх заявах да аднаўлення аджылых імперскіх структур! Васіль Уладзіміравіч, што адбываецца з творчымі людзьмі, якія, здаецца, здабылі свой аўтарытэт шчырай працай і прыстойнымі грамадскімі паводзінамі ў былыя часы! Ажно ўзнікае жаданне жыць сто гадоў, адно каб пабачыць на свае вочы далейшую эвалюцыю многіх з нашых калег. Ці ёсць якое-небудзь тлумачэнне гэтым пераўтварэнням! Можа, яно таксама ляжыць у глыбіні беларускай метафізікі!**

— Так, у пісьменніцкім Саюзе Беларусі сотні пісьменнікаў і, вядома, сярод іх ёсць несумненныя таленты. Але хіба несумненныя таленты ў нас калі замаўлялі музыку? Хіба таленты вялі рэй і былі заканадаўцамі літаратурнай моды? Можна, крыху ўтрыруючы, сказаць, што СП і быў створаны найперш для таго, каб змагацца з тымі талентамі, каб стварыць атмасферу ўдушэння талентаў, бо талент па сваёй прыродзе катэгорыя суверэнная, малазручная для кіравання ім. Калі талент нельга было зламаць, яго проста нішчылі фізічна. Так было ў 30-я гады, у 40-я і аж да апошняга часу. Для таго служыла жорсткая бюракратычная структура Саюза пісьменнікаў, падначаленая ЦК ды КДБ. А яшчэ партарганізацыя, партбюро з іх, па сутнасці, карна-наглядчыцкімі функцыямі. Пісьменніцкія парторгі былі прававернымі камуністамі (тое яны сведчаць нават і цяпер) і, апроч іншага, у партарганізацыях рабілі сваю кар'еру. Гэта ў краінах Балтыі да якой бы карпарацыі ні належаў грамадзянін, якога б чыноўнага маштабу ні быў, найперш пачуваўся літоўцам ці латышом, а пасля ўжо службоўцам — сакратаром ЦК ці пісьменнікам. Беларусу ж у нашай дэнацыяналізаванай рэспубліцы хапала таго, што ён камуніст; беларусам ён мог не пачувацца ніколі. І лічыў гэта за гонар. Не дзіва, што тыя людзі і дагэтуль сябе пачуваюць ранейшымі камуністамі, іншымі не хочуць і не могуць быць. Як тыя дыназаўры, яны іманентна няздольныя да якой-небудзь эвалюцыі, як не здольны да яе камунізм наогул. Гэта закасцянелая, бетонная фармацыя з закасцянелай псіхалогіяй яе носьбітаў. І тут суцяшае хіба той несумненны факт, што кожны закасцянелы арганізм пазбаўлены здольнасці да развіцця.

**— У Швейцарыі, блаславёным краі, хараство прыроды якога часам параўноўваюць з нашым зялёным куточкам, сучасныя пісьменнікі, услед за сваімі слыннымі папярэднікамі Ф. Дзюрэнматам і М. Фрышам, ствараюць літаратуру, у якой гучыць туга па паўнаце чалавечага быцця, па шчасці яднання з навакольным светам, страчаным разам з небывалым эканамічным росквітам. Людзі, можна сказаць, сядзяць літаральна на мяшках з золатам швейцарскіх банкаў і тым не менш скардзяцца на адзіноту, тугу, адчай і г. д. А ці не забываем мы сёння ў пагоні за дабрабытам, за ўсясветным плачам на цяжар існавання, на сваю горкую долю, што ёсць больш фундаментальныя рэчы і што плакацца трэба хутчэй за ўсё на наша адпачатку трагічнае становішча ў свеце! У чым своеасаблівасць менавіта беларускіх адносін да экзістэнцыяльных праблем зямнога існавання, якія, на мой погляд, займаюць у вашай творчасці, магчыма, цэнтральнае месца!**

— Так, у забяспечаным, стабільна дэмакратычным грамадстве з цягам часу з'яўляецца патрэба ў «паўнаце чалавечага быцця». Мабыць, да тае паўнаты там не хапае трошкі, зусім трошкі — да абсалютнага шчасця, абсалютнага яднання з прыродай. А вось як яднацца з прыродай беларусам, у якіх тая прырода густа абсыпана радыенуклідным пылам? Ці тут да яднання з прыродай? Здарыўся гістарычны парадокс, калі нацыя, якую, можа, болей за іншае стварыла менавіта прырода, зараз набыла ў прыродзе свайго ворага, бо чым жа яшчэ можа стацца цяпер «чарнобыльская прырода»? Так, людзі Захаду скардзяцца на адзіноту на «мяшках з золатам», а мы пачалі ўжо пра яе марыць, пра тую адзіноту, нават без золата, бо ў свой час даволі нацешыліся калектывізмам розных гатункаў — ад калгасаў да ГУЛАГа. Той славуты калектывізм не толькі не прынёс нам шчасця, але і пагражае зрабіць з нас псіхалагічных мутантаў. І ў шмат якіх адносінах дамогся таго.

Але не так навука, як вопыт чалавечага існавання апошніх гадоў засведчыў, што нельга парушаць Богам дадзеную чалавечую існасць, нельга беспакарана замахвацца на падлеглую існасць прыроды. Не толькі індывідуальныя замахі «геннай інжынерыі», але і масавыя псіхалагічныя эксперыменты кепска канчаюцца. Мабыць, трэба болей давяраць прыродзе наогул і чалавечай прыродзе ў прыватнасці. Чалавек, як бы ён чаго ні хацеў, не можа болей таго, што можа. У наш цяжкі час ён проста абавязаны абмежаваць свае пажаданкі, утаймаваць свае патрэбы, бо неадэкватнасць іх гістарычным варункам здольны прынесці толькі боль і расчараванне. Мабыць, самаабмежаванне павінна стаць нормай не толькі ў галіне спажывання энергарэсурсаў, але і ў духоўна-маральнай сферы, як тое красамоўна абгрунтаваў нядаўна Аляксандр Салжаніцын.

**— Галоўная падзея, на якой дасюль выхоўвалася наша пакаленне,— гэта апошняя вайна. Сёння чуюцца справа і злева галасы, што літаратура аб вайне прыкметна дэфармавала літаратурны працэс. Больш таго, яна ў немалой ступені абслугоўвала славуты ВПК. Калі разумець пад літаратурай своеасаблівы падручнік па гісторыі ў ілюстрацыях, то, напэўна, ёсць рацыя ў гэтых запозненых папроках. Аднак творы пра вайну ў лепшых сваіх узорах успрымаюцца як нейкае грандыёзнае іншасказанне пра адносіны чалавека XX стагоддзя, скажам, да праблемы смерці — фундаментальнай праблемы чалавечага існавання, якая, на думку заходніх вучоных, ляжыць на самым дне ўсіх нашых душэўных рухаў і шматлікіх рэакцый на падзеі. Васіль Уладзіміравіч, якая ўсё-ткі патаемная мэта, магчы-**

"Народная Газета"

# Яшчэ адзін крок на шляху да самастойнасці і незалежнасці нашай дзяржавы

## 28 сакавіка ў Вярхоўным Савеце адбылася ўрачыстая цырымонія падпісання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

Подпіс пад галоўным Законам суверэннай дзяржавы паставіў Старшыня Вярхоўнага Савета, старшыня Канстытуцыйнай камісіі Мячэслаў Грыб.

Кіраўнік беларускага парламента выказаў падзяку распрацоўшчыкам — членам Канстытуцыйнай камісіі, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета, ураду, беларускім вучоным і юрыстам, якія больш за два гады актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні Канстытуцыі. Ён адзначыў, што яе аўтарамі сталі таксама многія грамадзяне рэспублікі, якія ўнеслі ў праект нямала каштоўных прапаноў.

Новая Канстытуцыя, падкрэсліў Мячэслаў Грыб, — першая ў гісторыі Беларусі, дзе правы грамадзяніна і чалавека з'яўляюцца прыярытэтнымі. Дакумент вызначае новы дзяржаўны лад, абвяшчае Беларусь прэзідэнцкай рэспублікай, уводзіць Канстытуцыйны суд. Прынятая 15 сакавіка 1994 года беларускім парламентам Канстытуцыя — "вельмі важны крок на шляху да самастойнасці і незалежнасці нашай дзяржавы", сказаў Мячэслаў Грыб. Ён адзначыў, што Канстытуцыя гарантуе суверэннасць маладой дзяржавы, паколькі ў яе ўвайшлі ўсе важнейшыя палажэнні прынятай раней Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Мячэслаў Грыб падкрэсліў, што Канстытуцыя, якая ўводзіцца ў дзеянне з дня яе апублікавання ў сродках масавай інфармацыі, ужо ў бліжэйшыя дзень-два з'явіцца ў друку.

Каб яна запрацавала з першых жа дзён, неабходна ажыццявіць дзяржаўную перабудову, устанавіць дысцыпліну і парадак. Першы крок на шляху да гэтага, лічыць Мячэслаў Іванавіч, — правядзенне выбараў прэзідэнта — кіраўніка прадстаўнічай і выканаўчай улады. Чакаецца, што 29 сакавіка, пасля чарговых парламенцкіх канікулаў, сесія Вярхоўнага Савета пачне слуханне законапраекта "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Паводле слоў Мячэслава Грыба, выбары прэзідэнта найбольш мэтазгодна правесці ў першым паўгоддзі бягучага года.

На цырымоніі падпісання Канстытуцыі прысутнічалі прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў, народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь.

**Ларыса ЛАЗАР.**
**Белінфарм.**

**ма, звышзадача, рэалізавалася ў ваеннай літаратуры наогул і ў вашых творах асобна? Якое месца заняла вайна ў падсвядомасці народа? У чым быційны сэнс гэтай выключнай падзеі ў гісторыі беларусаў?**

— Я думаю, што наўрад ці правамерна рабіць цяпер нейкія тыпалагічныя высновы хоць бы і ў галіне літаратуры пра мінулую вайну. Гэтая літаратура па сутнасці розная (як і наогул уся літаратура), і нейкія абагульненыя меркаванні заўжды рызыковыя. Ёсць творы пра вайну Гурскага і ёсць творы Адамовіча, у іх усё featured рознае. І калі ўжо гаварыць да канца, дык, на мой погляд, менавіта літаратура пра мінулую вайну ў нейкай меры рэабілітавала сучасную (пасляваенную) беларускую літаратуру. Ужо хоць бы тым, што меней хлусіла. У адрозненне ад іншай — вытворчай, партыйнай, вясковай ды іншай літаратуры ў ёй не лезлі з усіх шчылін гэтыя сакратарыпарторгі, гэтыя фантамасныя стварэнні нядаўняга сацрэалізму. Мне цяжка меркаваць пра ўласныя творы на гэту тэму, але, маючы на ўвазе творы іншых аўтараў, магу з упэўненасцю сказаць, што калі што і пяройдзе з нашай літаратуры ў наступнае стагоддзе, дык найперш гэта кніжкі пра мінулую вайну. Надоўга ці не — іншае пытанне, але было б дзіўна, калі б сталася інакш.

**— Знакі правінцыяльнасці ззяюць тут і там у сучасным культурным жыцці рэспублікі. У нас няма нацыянальнага кіно. У нас няма беларускай песні (Рыгор Барадулін сказаў пра гэта так: «У нас ёсць музыка на беларускія тэксты»). Мне здаецца, што ў нашай літаратуры, пачынаючы з 30-га года, моцна спаў нацыянальны пафас. Прынамсі, цяжка сёння адшукаць постаці, раўназначныя лідэрам нацыянальнага адраджэння — Купалу, Коласу, Багдановічу, Гарэцкаму. Магчыма, літаратура стала больш развітай і дасканалай як эстэтычная з'ява, аднак як феномен нацыянальнага існавання яна прыкметна страціла сваю «беларускасць». Васіль Уладзіміравіч, ці магчыма ў сённяшніх умовах вяртанне, няхай на новым вітку, да таго стану, калі беларуская ідэя набудзе паўнавартаснае жыццё ў нашым мастацтве? Публіцыстычнага ж пафасу, здаецца, стае...**

— Нацыянальная ідэя змарнела і напрыканцы XX стагоддзя ледзьве ліпела ў палітычнай атмасферы краіны. Менавіта таму свядомыя нацыянальныя сілы і спахапіліся, каб яна не памерла зусім. Найперш належала пераканаць беларусаў, што яны беларусы — не горшыя і не лепшыя за астатнія народы — іншыя. Далей або разам з тым трэба было адраджаць занядбаную нацыянальную мову. Бо мова ў такіх варунках заўжды першае і апошняе з праяў нацыянальнай адметнасці. Мы блізенька падышлі да гэтай апошняй стадыі, за якой паўстала рэальная рызыка паўтарыць гістарычны лёс ятвягаў. Мабыць, першыя зразумелі тое нашыя інтэлектуалы, што стварылі беларускі народны фронт «Адраджэнне», і яны ж тады прынялі на сябе ашалелы напад камуністаў. Надта гэта было нязвыкла і нечувана, каб беларусы заступіліся за сваю нацыянальную існасць. Ды і з рупліўцаў моўнага адраджэння не ўсе зразумелі вялікую справядлівасць мэт БНФ і меркавалі абысціся вузкай задачай: прылашчыць партнаменклатуру да беларускае мовы. Але мова — не мэта, мова, па сутнасці, сродак у барацьбе нацыі за дзяржаўнасць, усё тое дужа звязана між сабой. Будзе дзяржаўнасць, будзе жыць мова, не будзе дзяржаўнасці — не будзе і мовы. У атмасферы камуністычнага таталітарызму нацыянальная мова існаваць не можа, там яна асуджана на хуткае знікненне. Камуністы прызнаюць толькі адну мову, якая служыць у іх імперскіх мэтах, іншыя толькі шкодзяць. Наіўнымі здаюцца намеры ўсіх гэтых парламенцкіх «цэнтрыстаў» ды «згоднікаў» дамагчыся росквіту нацыянальнай мовы ў рамках посткамуністычнай рэспублікі. Таго быць не можа, і ім рана ці позна прыйдзецца рабіць выбар паміж імперскім камунізмам і сапраўдным суверэнітэтам, калі толькі яны здольныя на такі выбар. Таму на сённяшнім этапе самая плённая з ідэй (хаця і не самая лёгкая) — ідэя нацыянальнага адраджэння. У ёй усё ж нешта напрацавана за мінулыя часы, нешта ляжыць у нашай даўніне, нешта здабыта для будучыні. Ды і ў гістарычным плане для таго ёсць пэўныя прэцэдэнты, напрыклад, еўрапейскае Адраджэнне, што дало новае і плённае жыццё элінізму, рэфармацыя, якая абнавіла хрысціянства і дала новае дыханне іудаізму. Чаму не можа паслужыць нацыі беларускае Адраджэнне? Пазнавата, праўда, але вядома, што лепш позна, чым ніколі.

А паўнавартаснае жыццё беларускай ідэі ў мастацтве? Калі тая ідэя будзе ў жыцці, дык будзе і ў мастацтве. Інакш не бывае. Прынамсі, у рэалістычным мастацтве.

**— Часта ўзгадваюць Майсея, які вадзіў свой народ 40 гадоў па пустыні, каб ён урэшце стаў іншым. Мы пражылі ў «пустыні» бальшавізму ажно 70 гадоў, змянілася тры пакаленні. Ці не адбылося ў свядомасці народа незваротных змен і ці магчыма сёння наогул вяртанне ва ўлонне чалавецтва?**

— Баюся, што такія змены ўжо адбыліся. Ды і калі мець на ўвазе ўсё, што давялося перажыць нацыі на яе гістарычным шляху, было б дзіўна, калі б не адбыліся. Тым большы клопат пра вяртанне да першазданнай існасці, у хрысціянскае ўлонне чалавецтва. І тым большыя спатрэбяцца высілкі. Калі не ахвяры.

**— Васіль Уладзіміравіч, як вы адносіцеся да ідэі «непраціўлення злу насіллем», якую сёння, услед за Л. Талстым і М. Гандзі, актыўна прапагандуюць, скажам, В. Гавел, Л. Валенса? Ці не супярэчыць удзел у нацыянальным адраджэнні, які, зразумела, вымагае досыць рэзкіх дзеянняў, той пазіцыі, што выяўлена ў словах: «Сіла бяссільных» (В. Гавел)? Якімі шляхамі пойдзе развіццё чалавецтва ў наступным тысячагоддзі ва ўмовах, калі рэвалюцыйныя сродкі вычарпалі сябе, горш таго, выявілі сваю антычалавечую прыроду? І ці магчыма наогул у гэтым не самым лепшым свеце эвалюцыя да людскага існавання, якім яно існуе столькі гадоў ва ўяўленні лепшых пісьменнікаў свету! Ці, можа, лепш, адкінуўшы ўтопіі, жыць як набяжыць, штодня і штохвіліны святкаваць радасць быцця як існавання!..**

— Прапагандаваць можна ўсё, што хочаш, куды цяжэй тое ажыццяўляць на справе. Андрэ Маруа некалі пісаў, што для маралiста самае цяжкое — жыць адпаведна ўласнай маралі. Праўда, куды зручней пісаць правілы маралі для іншых, робячы з іх выключэнне для сябе і сваіх блізкіх. Я думаю, што той жа Валенса, не зважаючы на свае «непраціўленчыя» пропаведзі, праяўляе на практыцы зайздроснае «праціўленне», пра што сведчыць хоць бы ягоны крок па роспуску парламента. Ды і, бадай, уся яго палітычная дзейнасць у «Салідарнасці». Мабыць, для ўвасаблення ідэі непраціўлення патрэбен іншы стан грамадства, іншыя гістарычныя варункі, чым тыя, у якіх столькі гадоў існуюць беларусы. Ужо яны болей чым якая іншая нацыя ў свеце даказалі ўсю бесперспектыўнасць непраціўлення, што дагэтуль пагражае звесці нацыю ў гістарычны нябыт...

# ЛЯВОН ШЫМАНЕЦ — СТОПРАЦЭНТНЫ БЕЛАРУС З ПАРЫЖА

ЗВЯЗДА

**Не першы год пішу пра беларускую эміграцыю. Дзесяткі, а мо і сотні сустрэч з суайчыннікамі, якія ў розныя часы і ў розных абставінах пакінулі Бацькаўшчыну, жывуць цяпер у розных краінах свету — і някепска жывуць, дарэчы, — пераканалі мяне ў тым, што існуе нейкая таямнічая сіла прыцягнення той зямлі, дзе яны ўпершыню пачулі голас маці, убачылі сонца і неба.**

**Лявон Шыманец у гэтым сэнсе — не выключэнне. Выключнасць яго сітуацыі заключаецца, бадай што, толькі ў адным: у тым, што гэты рэспектабельны парыжанін вось ужо два гады працуе ў Беларусі.**

**Памяняць Парыж на Мінск! Хіба магчыма такое! І гэта ў той час, калі многія грамадзяне Беларусі, зняверыўшыся ў хуткім паляпшэнні жыцця, лічаць за лепшае эмігрыраваць адсюль у краіны, дзе ўсё больш стабільнае і ўпарадкаванае...**

**Нехта едзе адсюль, але нехта едзе і сюды. Доказ таму — Лявон Шыманец, так бы мовіць, першая ластаўка зваротнага руху. Аднак, пра ўсё па парадку.**

## I

... Мы сядзім са спадаром Лявонам у офісе Мінскага энергетычнага цэнтра Еўрапейскага супольніцтва. Шыманец — яго дырэктар.

На сценах — карты, дыяграмы, на століках шыкоўныя праспекты, па якіх можна сарыентавацца, што ў 14 краінах свету ўжо працуюць падобныя энергетычныя цэнтры, якія дапамагаюць перадачы энергетычных тэхналогій паміж прамысловымі і камерцыйнымі прадпрыемствамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Еўрапейскім супольніцтвам.

Персанал фірмы — усе як адзін — размаўляюць па-беларуску. Напэўна, падумалася, адыграў сваю ролю аўтарытэт шэфа, які ўмее толькі па-французску, альбо па-беларуску.

Тое, што такі цэнтр існуе ў Беларусі — выключная заслуга нашага земляка.

Як гэта ў яго атрымалася?

Па-першае, у канцы 80-х гадоў у СССР, як вядома, пачаліся перамены. І з БССР у Францыю сталі даходзіць весткі, што дэмакратычныя працэсы ідуць і на радзіме Лявона. На той час фірма, дзе працаваў Шыманец, збанкрутавала і ён аказаўся без працы. У прынцыпе можна было жыць на пенсію альбо пашукаць іншае месца: Шыманец, выдатны спецыяліст па электроніцы, відавочна, не меў бы вялікіх праблем. Але ж яго апанавала адна шалёная ідэя: паспрабаваць, як ён кажа, скантактавацца з Беларуссю, папрацаваць на Беларусь, ад якой яны былі адсечаны амаль паўстагоддзя.

Сіла прыцягнення бацькоўскай зямлі аказалася такой моцнай, што Лявон пачаў з неймавернай энергіяй дзейнічаць. Тэлефанаваў у Мінск, спрабуючы даведацца, што ў нас адбываецца. А пасля стаў шукаць інфармацыю, дзе пісалася пра міжнароднае супрацоўніцтва, шукаць выхады на Беларусь.

Даведаўся, што ў 1991 годзе Еўрапейскім супольніцтвам было вырашана развіваць работы па праграме TERMIE ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, уключаючы Садружнасць Незалежных Дзяржаў.

Адной з асноўных задач праграмы TERMIE было эфектыўнае выкарыстанне энергіі і аховы навакольнага асяроддзя.

На Беларусі на той момант ні сном, ні духам не ведалі пра існаванне такой праграмы.

Рэспубліка ж наша, як вядома, валодае малой колькасцю асабістых энергетычных рэсурсаў і імпартуе больш за 90 працэнтаў пачатковай энергіі, якая ёй неабходна. У той жа час эфектыўнасць выкарыстання энергіі нізкая. У такіх абставінах без павышэння энергетычнай эфектыўнасці і развіцця альтэрнатыўных крыніц энергіі цяжка ўвогуле гаварыць пра пераход да рынachнай эканомікі і г. д.

Разумеючы ўсё гэта і выкарыстоўваючы свой аўтарытэт інжынера-электроншчыка, Лявон Шыманец пайшоў з прапановамі ў агенцтва па міжнароднаму супрацоўніцтву. Аказалася, тыя мелі савецка-французскую праграму і вырашылі запрасіць колькі чалавек з Беларусі на стажыроўку. Праз гэтых людзей былі наладжаны кантакты з беларускім урадам.

Як гэта ні дзіўна, але праз даволі кароткі час удалося падрыхтаваць праект па праграме THERMIE для рэалізацыі яго на Беларусі.

Лявон Шыманец знайшоў фірму, якая згадзілася ажыццявіць праект. І ў пачатку 1992 года яна ўжо пачала працаваць у Беларусі.

*Людзі з Заходняга Съвету!*

## II

Шыманцы пакінулі радзіму ў канцы Вялікай Айчыннай. Бацька Лявона вырашыў, што заставацца ім небяспечна, хаця ніякіх грахоў за сабою не меў. Быў ён чалавекам адукаваным, меў свой гонар і сваё ўяўленне пра тое, што для Беларусі добра, а што кепска.

Калі ў Баранавічы ў 1939 годзе прыйшлі Саветы, ён працаваў галоўным інжынерам электрастанцыі. Неўзабаве яго запрасілі на гутарку ў райком партыі, дзе прапанавалі ўступіць у камуністычную партыю. Той адмовіўся. Такі ўчынак быў расцэнены як варожыя адносіны да савецкай улады. І хутка бацька Лявона аказаўся за кратамі, адкуль яго павінны былі вывезці ў Сібір. Але тут пачалася вайна...

У партызаны — не пайшоў, да немцаў таксама. Што было рабіць «ворагу народа»?..

Спачатку Шыманцы трапілі ў Данію. Але Савецкі Саюз запатрабаваў выдачы ўсіх савецкіх грамадзян, якія ў час вайны аказаліся ў нямецкім палоне альбо выехалі па нейкіх іншых прычынах. Датчане пашкадавалі беларусаў-бежанцаў і не сталі выдаваць іх Саветам, але параілі тэрмінова знайсці сабе новае месца жыхарства.

Так Шыманцы разам з іншымі беларусамі апынуліся ў Францыі.

Лявону падчас вайны было гадоў 7—9. Але ён добра памятае, як яны абжываліся на чужой зямлі.

— Мы пачалі літаральна з нуля. Недзе трэба было жыць. Спярша мы купілі кавалак зямлі, даволі танна, дарэчы, гэта каштавала тады. Але для нас, галоты, тое было задорага. Падзялілі ўчастак на двух гаспадароў. Мой бацька вырашыў даць прыклад усім беларусам: пабудаваць дом. Ён жа быў інжынер, мог зрабіць праект, мог выканаць усякую работу. І французы дзівіліся, калі бачылі, як паўставалі адзін за адным дамы прыехаўшых. «Што за людзі?» — пыталіся яны. «Беларусы», — адказвалі мы. Яны здзіўлена паціскалі плячамі.

Быць беларусамі, застацца беларусамі ў Францыі ім было куды больш складана, чым, скажам, рускім ці ўкраінцам. За сваю беларускасць ім давялося ваяваць, мець непрыемнасці з уладамі. Некаторыя не вытрымлівалі ўціску і зняважы, перапісвалі сваю нацыянальнасць на рускую ці польскую.

— Я магу ганарыцца тым, што ў нашых дакументах з самага пачатку было запісана, што мы — беларусы, беларускага паходжання, — кажа Лявон Шыманец. — І я, і мая сястра, і бацькі паўсюль, дзе маглі, расказвалі пра Беларусь. Хаця нам паўсюль даводзілі, што такой дзяржавы — Беларусь — няма. Але ўсе мы былі пераканаль, што вернемся назад, дамоў, а тут — часова.

Сям'я Шыманцоў, як і многіх іншых беларусаў, стаўшых «ворагамі» свайго народа, «здраднікамі», пачала станавіцца на ногі ў чужой краіне. Бацька Лявона напачатку задумаў выдаваць сваю газету. Але сіл і грошай хапіла толькі на тры нумары газеты «За волю».

Лявону, як мужчыну, давялося ва ўсім дапамагаць бацьку. Замест вучобы ва універсітэце, — а быў ён здольны юнак, мусіў пайсці на працу.

А як ажаніўся, дабудаваў яшчэ адзін паверх для сваёй сям'і.

Так яны і пражылі ўсе разам — тры пакаленні сям'і Шыманцоў у адным доме. Хаця гэта абсалютна не еўрапейская традыцыя. У Францыі, напрыклад, моладзь даволі рана адасабляецца ад бацькоў, адпраўляецца ў самастойнае плаванне. А яны жылі па-беларуску. Маці Лявона любіла корпацца ў гародчыку, вырошчваць садавіну і агародніну. Увогуле бацькі шмат часу аддавалі ўнукам. І які плён, папытаеце? Народжаныя ў Парыжы дзеці Лявона Шыманца — дачка Віргінія і сын Мікола ведаюць беларускую мову, цікавяцца Беларуссю, шануюць гэту зямлю, абодва пабывалі тут і мяркуюць, што калі-небудзь змогуць быць карыснымі краіне іх продкаў.

## III

Пра беларусаў ва ўсім свеце — а яны аказаліся раскіданымі па мацерыках — ведаюць як пра вельмі працавітых, міралюбівых і ўпартых людзей, якія ўмеюць дабівацца сваёй мэты. А ў сябе на радзіме, у Беларусі, невядома чаму склаўся такі стэрэатып: беларус — малаініцыятыўны, пасіўны, нават інертны чалавек. «Усё гэта лухта. Дайце ўмовы працаваць, і беларус усё зробіць!» — упэўнена гаворыць мне Лявон.

— Іншая справа, што я, пражыўшы 50 гадоў у Францыі, магу параўноўваць ментальнасць беларуса і таго ж француза, іх некаторыя тыповыя нацыянальныя рысы характару. Французы больш схільныя да супольнай працы, яны калектывісты. А беларусы — хутаране. Я так вызначыў бы іх імкненне ўсё зрабіць самім, быць незалежнымі ад каго б там ні было.

Лявону Шыманцу яго хутаранства, як мне здаецца, не пашкодзіла зрабіць сабе кар'еру, мець некалькі патэнтаў у адной з самых вядомых фірмаў Францыі, нягледзячы нават на тое, што яму не давялося атрымаць вышэйшай адукацыі.

Пачынаў у фірме «Томпсан» як тэхнік. Але прыродная кемлівасць, імкненне авалодаць ведамі, прадпрымальніцкія здольнасці, інтэлігентнасць, нарэшце, і непраўдападобная працаздольнасць — усё гэта дало яму магчымасць дасягнуць поспеху, падняцца па сацыяльнай лесвіцы знізу ўверх.

## IV

Спадар Шыманец даволі добра адчувае сябе ў Беларусі. Больш таго, ён лічыць асаблівым падарункам лёсу тое, што трапіў на радзіму не ў якасці турыста ці пабочнага назіральніка, які пакутуе ад настальгіі, а работніка, будаўніка новай дзяржавы.

З размовы з Лявонам я зрабіла выснову, што без Беларусі яму ўсё-такі нечага не хапала ў жыцці. Яго жонка-француженка мусіла пагадзіцца з рашэннем мужа часова папрацаваць у Беларусі. Тым болей, што Лявон абяцаў даволі часта бываць у Парыжы — гэтага вымагалі яго абавязкі дырэктара фірмы.

Мяркуйце самі: Лявон Шыманец знайшоў геніяльнае вырашэнне праблемы чалавека, які мае ў сваім сэрцы дзве дамоўкі, дзве краіны, дзве песні.

— Па адукацыі, па культуры, па сям'і, па маёмасці мая база жыцця — там. Францыя дала мне магчымасць працаваць, жыць. Увогуле беларусы там прыжыліся, але не ўкараніліся поўнасцю, — лічыць Лявон. — Там я ажаніўся, стварыў сям'ю. Сям'я для мяне — найважнейшае ў жыцці. І Францыя можа на мяне спадзявацца як на свайго грамадзяніна. Але я француз больш дзякуючы маёй жонцы, дзецям. Разам з імі я — француз. А прыязджаю сюды: бываю ў вёсках, сустракаюся з кіраўнікамі міністэрстваў, хаджу ў тэатры, на выстаўкі, у госці да знаёмых — стопрацэнтны беларус. Так усё разумею і адчуваю, быццам ніколі і не пакідаў Беларусь. Гэта ўжо, напэўна, мой генетычны крыж. І раздваенне асобы наканавана мне да скону дзён маіх.

Лявон Шыманец прызнаўся мне, што па першым часе свайго знаходжання ў Беларусі адчуваў пэўны дыскамфорт на вуліцы, у транспарце. Беларусь аказалася не такой, якой ён яе ўяўляў. Большасць людзей не гаварылі па-беларуску, яны здаліся яму раздражнёнымі і няветлівымі.

Але, стоячы з імі ў доўгіх чэргах за прадуктамі, у перапоўненых аўтобусах, наш зямляк з Парыжа

(Далей на бач. 8-ай)

## КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

22-23-га Красавіка сёлета адбудзецца першая Сустрэча беларускае моладзі з усяго сьвету ў Менску. Як нам стала вядома, удзел у сустрэчы прымуць дэлегаты маладзёжных арганізацыяў Беларусі, Латвіі, Жмудзі, Эстоніі, Украіны, Расіі і інш. Ці моладзь беларускага паходжаньня з Заходніх краін возьме ўдзел у гэтым зьлёце, – мы нічога ня ведаем...

***

У менскім касьцеле на Залатой Горцы канчаецца пабудова левага алтара. Цэнтрам яго будзе статуя Божай Маці выкананая з бронзы на сродкі-ахвяры беларускіх эмігрантаў. Учынак – варты пахвалы...

***

15-га Сакавіка гэтага году была прынята першая самастойная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. У гэтым важным дакумэнце на першы плян пастаўлены правы чалавека, а не дзяржавы. Такім чынам Беларусь ператварылася з парлямэнцкай рэспублікі ў прэзыдэнцкую. Выбары прэзыдэнта Беларусі адбудуцца 23 Чэрвеня 1994 г.

***

Хто ўступіць у перадвыбарчае змаганьне на пасаду беларускага прэзыдэнта?

На сёньняшні дзень вядома, што Станіслаў Шушкевіч афіцыйна выставіў сваю кандыдатуру. Здаецца, гэта самае зробяць В. Кебіч, Зянон Пазьняк, Г. Карпенка, магчыма М. Грыб ды інш.

Як бачым кандыдатаў хапае, а як будзе выглядаць афіцыйная, канчатковая ліста – хутка пабачым...

***

У месьце Казімеж над Віслаю ў Польшчы адбылася міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя па напісаньні падручнікаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і РэчыПаспалітай. Над гэтай сэрыяй падручнікаў працуе творчая група рэдактараў з Беларусі, Укаіны, Польшчы і Жмудзі...

***

31-га Сакавіка сёлета з Мішыган, ЗША., пры дапамозе International Aid, Inc, было адаслана 265 кіляграмаў (530 фунтаў) мэдыкаментаў ды іншых мэдычных прэпаратаў у Гайнаўскі шпіталь на Беласточчыне для дзіцячага аддзелу гэтае бальніцы. Гэта ўжо чацьвёрты раз, калі харытатыўная дапамога ў падобнай колькасьці накіроўваецца ў вышэй успомненую бальніцу ў Гайнаўцы.

Падобная колькасьць мэдычных прэпаратаў падрыхтаваная для перасылкі ў Беларусь. Цяпер вядуцца пошукі таннае транспартацыі або фондаў на пакрыцьцё гэтае перасылкі...

***

Урадавыя колы Беларусі без належнае патрэбы і падрыхтоўкі безпардонна цягнуць краіну да аб'яднаньня грашовае сыстэмы з Расіяй. Прафэсійная крытыка вядомых эканамістаў, як з боку Расіі, так і з боку Беларусі ды інш. краін не прымаецца пад увагу. На гэтым этапе эканамічнае перабудовы, Беларусь павінна ад гэтай ідэі рэзка адказацца і паслухаць дасьведчаных расійскіх спэцыялістаў, што ўся гэтая беларуская зацея можа прывесьці да вялікае бяды...

## ПЕСЬНЯ ЯДНАЕ...

**Пятро ЖЭБРАК** *"Рэспубліка"*




**Як вядома, 1994 год аб'яўлены ААН Міжнародным годам сям'і. У Слонімскім РДК з гэтай нагоды нядаўна прайшоў Рэспубліканскі фестываль сямейных ансамбляў.**

**Заснавальнікамі фестывалю выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Гродзенскае абласное ўпраўленне культуры, выканкамы Слонімскага раённага і гарадскога Саветаў. Таму і гонар вітаць удзельнікаў першага фестывалю сямейных ансамбляў выпаў гораду над Шчарай.**

**На дзіва разнастайным быў рэпертуар сямейных калектываў. Тут і гарманісты, і прыпевачнікі, фальклорныя і інструментальныя гурты, дуэты. Каля ста нумароў было прадстаўлена на суд журы і гледачоў.**

**Адметная асаблівасць фестывалю ў тым, што пераважная большасць твораў — гэта песенны фальклор, прыпеўкі беларусаў. Ён яшчэ раз пераканаўча пацвердзіў, што народ наш захоўвае, беражэ нацыянальную спадчыну — фальклор і традыцыі.**

**Узрост удзельнікаў фестывалю — ад трох да васьмідзесяці гадоў. Колькасць членаў гуртоў была таксама рознай: у адных яна вызначалася колькасцю сваякоў з аднолькавым прозвішчам, у другіх выпадках выступалі розныя сем'і, якіх аб'яднала песня.**

**Нягледзячы на цяжкі час, талентаў на Беларусі не стала меней.**

**На здымку: імгненні фестывалю ў Слоніме.**

НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ І АСВЕТА

# Марныя спадзяванні

*"Настаўніцкая Газэта"*

Можа падацца архіпарадаксальным, але ў галовах пэўнай часткі беларусаў нават у такі трагічны для нашага народа час, якім стала нямецкая акупацыя, раптам абудзілася ідэя нацыянальна-культурнага Адраджэння. Хто ж адносіўся да такіх беларусаў-утапістаў? Гэта перш за ўсё тыя, каго перад вайной з Германіяй не мілаваў, уціскаў савецкі рэжым. А іх было нямала, і асабліва сярод інтэлігенцыі, якую да канца не паспелі знішчыць. Да сваіх былых высакародных планаў нацыянальна-культурнага Адраджэння, якія не ўдалося ажыццявіць з-за масавых рэпрэсій у 30-я гады, яна вырашыла звярнуцца ва ўмовах усталяванага нямецкімі акупантамі "новага парадку". Да таго ж і самі фашысцкія ідэолагі вельмі ўмела ігралі на нацыянальных пачуццях людзей. Яшчэ да пачатку вайны і на першых этапах яе па ініцыятыве прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі не раз у самых высокіх эшалонах германскага рэйха ўздымался пытанне аб гарантаванні Беларусі нацыянальнага дзяржаўнага суверэнітэту пасля выгнання з яе тэрыторыі бальшавікоў. І хтосьці шчыра верыў у рэальнасць такога акта з боку берлінскіх уладаў, схіляючы і іншых да такой думкі ў дачыненні да запаеўнікаў. Дый як тут было не паверыць, калі пасля захопу ў 1938 годзе Чэхаславакіі фашысты выдзелілі з яе складу Славакію, абвясціўшы апошнюю "Славацкай дзяржавай". Неўзабаве пасля захопу Беларусі сюды вярнуліся з эміграцыі прадстаўнікі тых нацыянальна-дэмакратычных рухаў, што змагаліся за яе дзяржаўную незалежнасць напярэдадні і ў першыя гады пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пацягнуліся дамоў і ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд, якія ўвосень 1939 года, баючыся рэпрэсій з боку савецкіх карных органаў, уцяклі на Захад.

Словам, ужо ў першыя месяцы акупацыі на Беларусі мелася дастаткова сіл, каб паспрабаваць ажыццявіць свае няздзейсненыя ў 20—30-я гады мары па нацыянальна-культурным Адраджэнні, тым больш, што новыя ўлады гэтаму асабліва не пярэчылі. Для іх важна было на захопленай тэрыторыі быць паўнаўладнымі гаспадарамі ў сферы палітыкі і эканомікі, вайсковай справы, а на якой мове, на якой духоўнай спадчыне будзе ладзіцца жыццё на Беларусі, іх мала цікавіла. Садзейнічаць умацаванню тут рускага элемента, як гэта рабілася да вайны па ўказцы Масквы, яны зусім не збіраліся. Наадварот, ім было больш выгадна, каб на Беларусі развівалася ўсё беларускае, каб яна ўсё далей адыходзіла ад рускай культуры і, значыць, ад яе носьбітаў. Пры такім разрыве двух славянскіх народаў акупантам лягчэй было ажыццяўляць захопніцкія планы.

Прыхільнікі нацыянальна-культурнага Адраджэння свае канкрэтныя планы вырашылі пачаць з адпаведнай пабудовы сістэмы народнай асветы. Акурат для гэтага меліся педагагічныя кадры. Па-рознаму склаўся лёс нашага настаўніцтва, што засталося на акупаванай летам 1941 года тэрыторыі. Для некаторых педагогаў гэта быў час, калі ім (адступала Чырвоная армія) удалося самавызваліцца з савецкіх турмаў, лагераў, калі ўжо можна было не баяцца стаць беспрычынна арыштаванымі нкусаўцамі. Угаварыць такіх настаўнікаў працаваць па спецыяльнасці не ўяўляла ніякай цяжкасці для акупантаў. Такое ж можна сказаць і пра многіх настаўнікаў, для якіх праца ў школе з'яўлялася асноўнай, адзінай умовай забеспячэння хоць мінімальных патрэбаў сваёй сям'і ў матэрыяльных і фінансавых сродках. Хтосьці з настаўнікаў быў накіраваны ў школы і паводле распараджэнняў акупантаў, якія вялі строгі ўлік працаздольнага насельніцтва.

Усімі пытаннямі ў галіне народнай асветы займаўся створаны пры Генеральным камісарыяце Беларусі галоўны школьны інспектарат. Пасаду галоўнага школьнага інспектара заняў былы ўдзельнік Усебеларускага Кангрэса 1917 года, ксёндз Гандлеўскі (за ўдзел у нелегальнай беларускай нацыянальнай антыфашысцкай і антыкамуністычнай арганізацыі "Беларускі народны фронт" у студзені 1942 года быў арыштаваны і закатаваны да смерці гестапаўцамі), вядомы як актыўны змагар за беларускую нацыянальную справу ў Заходняй Беларусі ў гады, калі яна знаходзілася пад Польшчай. Фінансаваліся школы толькі за кошт сродкаў Беларускай народнай самапомачы (БНС), г.зн. самога мясцовага цывільнага насельніцтва. Нягледзячы на вялікія матэрыяльныя, фінансавыя цяжкасці, восенню 1941 года ў многіх школах на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі арганізавана пачаліся заняткі. Нават у Мінску, дзе ў перыяд акупацыі заставалася не больш за 100 тысяч жыхароў, у кастрычніку працавала 12 народных школ, якія наведвалі 6 тысяч дзяцей. Акрамя таго, пры 8 дзіцячых дамах меліся школы, дзе вучылася 750 дзяцей. Усяго па стану на 15 снежня 1941 года на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі працавала 5 тысяч пачатковых школ. З лютага 1942 года пачаў выходзіць штомесячны часопіс "Беларуская школа". Ужо ў першым навучальным годзе адбыўся шэраг настаўніцкіх канферэнцый.

Пазней, з-за развіцця партызанскага руху на Беларусі, народнай асвеце не ўдалося ўтрымацца на пазіцыях першага навучальнага года. Аднак і ў 1942 годзе навучанне вялося ў 3499 народных школах, якія наведвалі 853 тысячы дзяцей. Іх навучаннем займаліся 11 тысяч настаўнікаў. Найбольш шматлікімі па колькасці вучняў была Мінская акруга — 71 тысяча чалавек, Баранавіцкая — 54, Глыбоцкая — 43 і Вілейская — 40 тысяч.

Намнога цяжэй было са стварэннем беларускай нацыянальнай школы на Беласточчыне і Берасцейшчыне, якія адышлі адпаведна да адміністрацыі Усходняй Прусіі і Генеральнага камісарыята Украіны, а таксама на ўсёй тэрыторыі на ўсход ад Барысава, што непасрэдна падпарадкоўвалася нямецкім вайсковым уладам. Але і тут нацыянальная самасвядомая грамадскасць і найперш само настаўніцтва не схацелі, каб беларускія дзеткі заставаліся без адукацыі, раслі і ўзгадоўваліся самапасам. На Гомельшчыне, да прыкладу, у 1942-43 навучальным годзе, г.зн. у час, калі партызанскі рух ужо добра разгарнуўся, мелася 357 школаў, у якіх навучалася 57 тысяч вучняў і працавала 419 настаўнікаў.

Беларускі адраджэнскі рух ажыў і на беларускіх этнічных тэрыторыях Латвіі і Літвы. Як і ў 20-я гады, тут пачынаюць ствараціца беларускія школы. У 1941 годзе ў Латвіі нават функцыянавала ў Індры (Бальбінава) беларуская гімназія, а ў самой Рызе — тры беларускія шасцікласныя школы. Па розных прычынах у Літве беларускія школы пачалі ўзнікаць толькі з 1943 года. Тут, акрамя 350 беларускіх народных школаў, заняткі вяліся ў гімназіі і настаўніцкай семінарыі (Вільня).

Дзякуючы вялікім стараниям і клопатам актывістаў беларускай нацыянальнай асветы, у акупацыйных уладаў удалося нават вырваць дазвол на стварэнне даволі шырокай для таго складанага часу сеткі сярэдніх прафесійных навучальных установ. Тут можна назваць настаўніцкія семінарыі ў Навагрудку, Вілейцы, Нясвіжы, трохгадовую медыцынскую школу ў Баранавічах (рыхтавала медсёстраў, акушэрак, фармацэўтаў і фельчараў), адміністрацыйна-гандлёвыя школы ў Маладзечне і Баранавічах, сельскагаспадарчую сярэднюю школу ў Мар'іна-Горцы, землеробчую школу ў Горы-Горках, трохгадовую дарожна-будаўнічую школу ў Баранавічах і інш. У Магілёве аднавілася навучанне на III і IУ курсах у медыцынскім інстытуце — гэта вучыліся даваенныя студэнты. Пры патрэбе арганізоўваліся настаўніцкія, арганізацыйна-бухгалтарскія курсы. Агульнаму стану асветы таго часу, на наш погляд, справядлівую ацэнку даў наш эмігрант Г.Няміга на старонках часопіса "Запісы" (1989 г.,№19),што выдае ў Нью-Ёрку Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва: "... асветніцкая праца не замерла нават у неспрыяльны ваенна-акупацыйны перыяд у краі. Наадварот, беларускай інтэлігенцыі ўдалося стварыць, утрымоўваць і пашыраць школьныя ўстановы. Умела выкарыстоўвалася тая акалічнасць, што акупант моцна завяз у вайне і фізічна не мог асадзіць усе аб'екты грамадскага жыцця ў занятым краі сваімі камісарамі. Асветная дзялянка абыходзілася амаль без іх. Дырэктары школаў і павятовыя школьныя інспектары працавалі цалкам самастойна. Як вынікае з усяго вышэйсказанага, народная адукацыя ў акупаванай Беларусі зрушылася далёка наперад у параўнанні з тымі задачамі, якія былі афіцыйна вызначаны для яе ўладамі фашысцкага рэйха: навучыць дзяцей толькі чытаць, пісаць і лічыць да 500. Думаем, што абвінавачваць беларускіх настаўнікаў за такое "парушэнне" ўстановак фашысцкіх уладаў няма ніякіх падстаў. Наадварот, у заслугу нашым педагогам можна смела паставіць, што і ў неверагодна цяжкіх умовах акупацыі яны дамагаліся ад нямецкай адміністрацыі адкрыцця навучальных устаноў павышанага тыпу, у якія ахвотна паступалі юнакі і дзяўчаты старэйшых узростаў, што па якіхсьці важкіх прычынах не маглі ўключыцца ў партызанскі рух. У такіх установах выгадна было вучыцца галоўным чынам таму, што мелася надзейная гарантыя не трапіць у лік тых, каго гвалтам вывозілі ў Германію, абавязвалі працаваць на карысць фашысцкага вермахта.

У надзею на духоўна-культурнае выжыванне паверылі і, як маглі, падтрымлівалі гэтую ідэю ў народзе сваімі публікацыямі і многія, не адарваныя ад нацыянальных традыцый, журналісты і пісьменнікі, што прыйшлі працаваць у рэдакцыі газет і часопісаў. Рабіць было гэта нялёгка, бо, як вядома, перад перыядычным друкам ставілася галоўная задача — ва ўсім дапамагаць умацаванню акупацыйнага рэжыму. А што ў створаныя акупантамі цывільныя органы кіравання, рэдакцыі перыядычных выданняў даволі часта траплялі людзі з чыстым сумленнем перад сваім народам, сведчаць шматлікія факты актыўнага ўдзелу многіх з іх у падпольнай барацьбе, добраахвотнага далучэння, як для гэтага выспявалі ўмовы, да партызанскага руху.

Зробленыя з дазволу акупантаў на Беларусі першыя крокі па адраджэнні нацыянальных традыцый паспрыялі таму, што многія і сапраўды паверылі ў верагоднасць адраджэнскіх працэсаў. Вось як гэтыя спадзяванні выказаў 7 снежня 1941 года настаўнік па адукацыі, будучы эмігрант Янка Золак у вершы "Брату беларусу":

*Прачынайся, мой брат, мой нябога,*
*Прачынайся з адвечнага сну*
*Ды выходзь да шырокай дарогі*
*Сустракаць маладую вясну!*
*Станавіся пад сцяг вызвалення,*
*Станавіся сьмялей і ня трусь:*
*Хай квітнее ў сваім адраджэнні*
*Дарагая табе Беларусь!*
*Прачынайся! Свой голас магутны*
*Загучаць па-свабоднаму змусь:*
*Па ўсім сьвеце няхай будзе чутна,*
*Што жыве родны край — Беларусь!*

Але ж далёка не ўсе, хто, працуючы ў створаных акупантамі ўстановах, не здрадзіў свайму народу, былі ўпэўнены, што пасля вызвалення Беларусі ўдасца даказаць сваю невінаватасць работнікам камісарыятаў дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных спраў, якія так жорстка распраўляліся перад вайной нават з уяўнымі ворагамі савецкай улады. Таму страх панесці незаслужаную кару і падштурхоўваў многіх сумленных інтэлігентаў, сярод іх і настаўнікаў, шукаць паратунку ў самассылцы на Захад. На такі шлях стаў і малодшы брат Якуба Коласа Міхал Міцкевіч (літаратурны псеўданім Антось Галіна). Уся яго віна заключалася ў тым, што ў гады акупацыі працаваў у сістэме адукацыі ў Стоўбцах. У заслугу Міхалу Міцкевічу можна паставіць, што ён і ў той цяжкі час шмат змог зрабіць для таго, каб у школах панавала беларуская мова, чаму вельмі супраціўляліся польскія нацыяналісты. У сваёй хаце на пачатку вайны хаваў ваеннапленных, а пазней падтрымліваў сувязь з партызанамі. І нягледзячы на ўсё гэта, не адважыўся застацца дома, калі надышоў канец акупацыі. Спачатку падаўся ў Чэхаславакію, дзе працаваў цесляром, а затым — у Заходнюю Германію. Тут ужо аддаўся служэнню нацыянальнай ідэі: уладкаваўся інспектарам пачатковых беларускіх школ, што былі створаны ў лагеры, займаўся выданнем беларускіх чытанак. З 1952 года выкладаў у школах Нью-Ёрка беларускую мову, затым да пачатку 60-х гадоў —рэдактар газеты "Беларус", што і сёння выходзіць у ЗША, а ў 1970—1981 гг. — часопіса "Голас царквы". Смерць Міхала Міцкевіча ў 1992 годзе не дазволіла яму здзейсніць сваю запаветную мару: наведаць і развітацца з любай Бацькаўшчынай.

Не стаў выпрабоўваць свой лёс таленавіты педагог і арганізатар асветы Барыс Кіт (1910 г.), ураджэнец вёскі Агароднікі Навагародскага павета, выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР займаў у гэтым горадзе пасаду дырэктара Беларускай настаўніцкай гімназіі. У гады фашысцкай акупацыі працаваў спачатку дырэктарам беларускай настаўніцкай гімназіі ў Навагародку, а затым дырэктарам Маладзечанскай гандлёва-прамысловай школы. Яе былы навучэнец, а цяпер мастак Кастусь Харашэвіч, так піша: "... наша школа дала не толькі трывалыя веды, але і многім дазволіла пазбегнуць угону ў Германію...".

У школе мы вучыліся па праграмах, якія не зведалі ні польска-нямецкай, ні савецкай ідэалагічнай цэнзуры. Менавіта там далучыліся да вытокаў гісторыі культуры роднага краю, яго звычаяў, традыцый, бо настаўнікі нашы былі ў асноўным рупліўцамі на ніве нацыянальнай асветы, сапраўднымі інтэлігентамі і патрыётамі.

Барыс Кіт займаў сярод іх адметнае месца. Ён запомніўся вучням як неардынарны, высокаадукаваны чалавек, які актыўна падтрымліваў вучняў у стварэнні самадзейных гурткоў, нават сам выконваў ролі ў спектаклі "Паўлінка", дапамагаў рабіць афішы да спектакляў...

Не далічыліся мы пасля другой сусветнай вайны і вельмі таленавітага і эрудзіраванага педагога, дырэктара Новагародскай беларускай настаўніцкай гімназіі Франца Грышкевіча. Выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, ён закончыў два факультэты Пражскага ўніверсітэта, дзе атрымаў ступень доктара філалагічных навук і права. Складаў вершы. Загінуў у сталінскіх лагерах. Няцяжка зразумець, колькі карыснага мог бы зрабіць гэты таленавіты педагог на ніве асветы, каб не стаў ахвярай савецкай рэпрэсіўнай машыны.

Лёс згаданых вышэй людзей такі складаны і трагічны, што хочацца прыгадаць яшчэ некаторых настаўнікаў акупіраванай Беларусі.

Не адважыўся застацца на радзіме Аўген Калубовіч, які адразу пасля заканчэння ў 1930 годзе педтэхнікума ў васемнац-

(Далей на бач. 10-ай)

(Працяг з бач. 9-ай)

цацігадовым узросце на тры гады трапіў у сібірскія лагеры. Абвінавацілі ў прыналежнасці да падпольнай нацыяналістычнай арганізацыі альтруістаў. У час фашысцкай акупацыі ў яго была задума даць дзецям тое, што забаранялася рабіць у савецкай школе. Не ўсё задуманае атрымалася, бо і новыя ўладары на Беларусі не пякліся пра яе шчасце. Жывучы доўгі час у эміграцыі, Аўген Калубовіч заставаўся высокасумленным грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі. З нагоды яе 55-гадовага юбілею ён зрабіў такі запіс у сваім дзённіку: "Беларусь! Тваё месца ў маім сэрцы нікім не занятое. І з вольнага свету я яшчэ лепей бачу, што табе нестае ўсё тых жа трох рэчаў: свабоды, свабоды і яшчэ раз свабоды!" Пяру Аўгена Калубовіча належаць успаміны "На крыжовых дарогах", у якіх паказаны пакуты беларускіх вязняў у сталінскіх турмах. Кніга выдадзена ўласным коштам у 1986 годзе ў Кліўлендзе.

З многімі падобнымі да сябе аднадумцамі апынуўся пасля Другой сусветнай вайны на захадзе былы навучэнец Мінскага педагагічнага тэхнікума імя У.Ігнатоўскага Язэп Маёвы. Апошнім годам навучання яго ў гэтай установе быў 1933 год. Адпаведным органам не падабаліся нацыянальна-патрыятычныя погляды будучага настаўніка на жыццё, з якімі ён не разлучыўся і пасля выключэння з тэхнікума. На чужыне яму давялося папрацаваць зусім не ў ролі настаўніка: спачатку быў прыбіральнікам, ткачом, а затым больш за два дзесяткі гадоў на сусветна вядомым амерыканскім заводзе Форда закручваў гайкі, скручваў драты, працаваў аператарам, беручыся сяды-тады і за пяро, таму што хацелася праз паэтычнае слова мець сувязь з далёкай, але любай Бацькаўшчынай. Па-сапраўднаму паэтычная дзейнасць у Язэпа Маёвага пачалася (літ. псеўданім Міхась Кавыль) з выхадам на пенсію. Цяпер ён працуе над раманам "Із агню ды ў полымя".

Пад страхам пакарання пакідалі Беларусь не толькі многія з тых, хто вучыў дзяцей, але і тыя, хто наведваў навучальныя ўстановы павышанага тыпу. Шмат каго з тых, хто не адважыўся развітацца з роднай Бацькаўшчынай, неўзабаве аж на дзесяць гадоў і больш пазаганялі ў халодныя сталінскія лагеры. Апынуўся там і Васіль Супрун, галоўная віна якога заключалася ў тым, што ў гады фашысцкай няволі вучыўся ў Слонімскай семінарыі і пісаў там вершы. Паступленне ж у семінарыю было выклікана жаданнем пазбегнуць прымусовага вывазу на працу ў Нямеччыну.

Доўгае панаванне на Беларусі таталітарнай сістэмы з яе жорсткімі санкцыямі да ўсіх іншадумцаў, істотныя страты нацыянальна-самасвядомай інтэлігенцыі ў гады масавых рэпрэсій, эміграцыя значнай часткі яе на захад тлумачаць, чаму ў нас у час пасляваеннай дэнацыяналізацыі народнай асветы ў яе не знайшлося дастатковай колькасці сапраўдных абаронцаў. Спробы супрацьстаяць гэтым небяспечным для лёсу нашага народа разбуральным працэсам рабіліся надзвычай асцярожныя, і толькі ў чыста асветніцкім плане. Пра іх ужо сёё-тое вядома нашаму чытачу з успамінаў непасрэдных удзельнікаў тых падзей, што выкарыстаем мы ў сваёй публікацыі, каб надаць асвятленню руху настаўніцтва і навучэнскай моладзі за нацыянальную асвету не столькі прыватны, колькі агульны характар. Верыцца, што камусьці гэты пакуль што яшчэ вельмі слаба вывучаны патрыятычны рух з'явіцца матэрыялам для сур'ёзнага манаграфічнага даследавання, не кажучы ўжо пра рознага роду брашуры. І гэта трэба рабіць неадкладна, пакуль яшчэ жывыя сведкі славутай старонкі ў нашай нацыянальнай асвеце. Не збаяліся тады ўзяць на сябе такую небяспечную ініцыятыву групкі адважных студэнтаў Баранавіцкага настаўніцкага інстытута, навучэнцаў Ганцавіцкага, Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў, некаторыя слонімскія настаўнікі. Амаль адначасова ў гэтых трох педвучылішчах узнік "Саюз беларускіх патрыётаў". Паколькі ў яго ўваходзілі і навучэнцы першых курсаў, значыць, да нацыянальна-патрыятычнага руху былі далучаны і 15-гадовыя юнакі і дзяўчаты. Аднак пазней фактар маладосці не з'явіцца падставай для далікатнага абыходжання з такімі юнакамі і дзяўчатамі ў час вядзення следства ці пры вызначэнні судамі меры пакарання для тых, хто "замахнуўся" на ўстоі савецкага рэжыму.

Найбольш актыўна і арганізавана паводзілі сябе навучэнцы Пастаўскага педвучылішча. З 1946 года яны падтрымлівалі сувязі і з вучаніцай Глыбоцкай сярэдняй школы №1 Лідай Несцяровіч. Спачувала змагарам і Тамара Барсук. На сустрэчу з імі прыходзіў з Пастаў Мікола Асіненка, з Глыбоцкага педвучылішча — Антон Фурс. Паводле ўспамінаў Тамары Барсук, сябры падпольнай арганізацыі "Саюз беларускіх патрыётаў" галоўнай мэтай ставілі не толькі адрадджэнне беларускай культуры і мовы, але і дасягненне ў будучым дзяржаўнай самастойнасці Беларусі з яе гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам. Хаця актыўнай дзейнасці Тамара не праяўляла, у сакавіку 1947 года яе, вучаніцу дзесятага класа, прама ў кабінеце дырэктара школы арыштавалі двое незнаёмых мужчын з наганамі і адразу павезлі ў Паставы, а раніцай даставілі ў Мінскую турму, дзе змясцілі ў адну камеру з настаўніцай пачатковых класаў з Пастаўшчыны Ленай Бароўкай. Далей дадзім слова самой Тамары:

"У турме мы прасядзелі больш за тры месяцы. Час ад часу нас выклікалі на допыты. Нарэшце ў чэрвені адбыўся суд. Судзіў ваенны трыбунал. Гэта працягвалася некалькі дзён. У жалезнай клетцы на лаве падсудных знаходзілася больш за 40 юнакоў і дзяўчат з Глыбокага і Пастаў. 20 чэрвеня 1947 года ваенны трыбунал войск МУС Мінскай вобласці вынес прыгавор: Мікола Асіненка і Васіль Мядзелец былі прыгавораны да расстрэлу..." Ліду Несцяровіч прысудзілі да 10 гадоў зняволення. Тамару — да трох. З адбыццём меры пакарання ў Нарыльску. Некаторых з асуджаных этапіравалі ў Магадан, Казахстан і іншыя далёкія месцы. Хтосьці з іх пасля адбыцця тэрміну пакарання ці амністыі 1956 года так і не вярнуўся адтуль дамоў.

Страшэнны лёс напаткаў не дужа вялікую актывістку "Саюз беларускіх патрыётаў", навучэнку Глыбоцкага педвучылішча Людмілу Краснадубскую, пра што яна паведаміла ў пачатку 1993 года ў пісьме з казахскага сяла Акычы. Нарадзілася Людміла ў сям'і настаўніка, дзе, відаць, шанавалі беларускія нацыянальныя традыцыі, бо каб усё было наадварот, не прымкнула б да адраджэнскіх ідэй. На другім годзе вучобы (паступіла ў 1945 г.) яе арыштавалі. Далей падзеі разгортваліся, як піша Людміла Краснадубская, наступным чынам: "Я была ўжо замужам і чакала дзіця, таму ўвогуле ніякай актыўнай дзейнасцю не займалася. Кадэбісты схапілі мяне і павезлі ў Паставы. Там кінулі ў нейкае сутарэнне з земляной падлогай, дзе ля выхаду канваіры сядзелі ля вогнішча. Я замярзала (было гэта ў канцы лютага 1947 г.—Е.А. і Л.Л.), але яны не дазволілі нават наблізіцца да агню. Раніцай допыт, зняваргі. Потым адвезлі ў менскую турму". 20 чэрвеня 1947 года адбыўся суд, у адпаведнасці з якім маладую патрыётку на 10 гадоў пазбавілі волі і ў дадатак яшчэ на 5 гадоў адмовілі ў правах. У мінскай турме, чытаем далей, у Людмілы "якраз пачаліся родавыя схваткі. У лазарэце менскай турмы і нарадзіўся мой сынок. Загарнулі ў анучы, усунулі ў рукі і хворую этапам у турэмную калонію "Матери и ребёнка" ля станцыі Хальч Гомельскай вобласці. Я была ледзьве сама жывая, малако прапала, а дзіця цягнецца да пустых грудзей і ціхенька плача ад голаду. Сынок пражыў 4 месяцы і 15 дзён і сканаў на маіх руках. Вось гэта і была самая страшэнная для мяне кара! Калі б я ведала, што так будзе, я яшчэ б у час допыту паклала б на сябе рукі..." ("Наша слова", 1993, 20 студзеня). Пасля Аршанскай перасыльнай турмы былая навучэнка педвучылішча апынулася ў адным з паўночных лагераў СССР, дзе працавала на лесанарыхтоўках, затым перавезлі ў Казахстан. Пасля хрушчоўскай амністыі вызвалілі, і яна прыехала ў 1956 годзе ў Беларусь. Але тут ёй не знайшлі працы... Вымушана была вярнуцца у Казахстан, дзе і цяпер жыве.

Нацыянальна-патрыятычны рух педагогаў і навучэнцаў у той вельмі складаны час насіў лакальны характар і ніколькі не паўплываў на стан спраў у народнай адукацыі. Вызначаныя імі нацыянальна-патрыятычныя мэты заключаліся ў наступным: "Абарона нацыянальных правоў і свабод, барацьба за захаванне і развіццё беларускай культуры, мовы, гісторыі". Але ўсё гэта засталося толькі на паперы. Кару ж давялося панесці неадпаведную таму, што было зроблена лепшай часткай настаўніцтва, студэнтаў і навучэнцаў у змаганні за адраджэнне нацыянальнай школы.

Не абмінулі арыштам у 1948 годзе нават і 65-гадовага заслужанага настаўніка БССР з вёскі Азірава Відзаўскага раёна Полацкай вобласці Лявона Міхайлавіча Умпіровіча. Сын яго быў актыўным удзельнікам партызанскага руху, а вось дачка Аляксандра вучылася ў Пастаўскім педвучылішчы і з'яўлялася сябрам "Саюза беларускіх патрыётаў". Яе бацька мог бы пазбегнуць кары, калі б публічна выступіў, як яго прасілі, з асуджэннем дзеянняў пастаўскіх навучэнцаў. Настаўнік высокай нацыянальнай і грамадзянскай пазіцыі, ён не мог дазволіць сабе такога. 27 ліпеня 1948 года ваенны трыбунал войск Міністэрства ўнутраных спраў БССР асудзіў яго да 10 гадоў лагернага зняволення. З іх прасядзеў толькі 4: памёр у 1952 годзе ў Мінску. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Судовыя працэсы, што чыніліся над нацыянальна-патрыятычнай інтэлігенцыяй і студэнтамі, трымаліся ў вялікай тайне ад народа. Толькі пазней, у час чэрвеньскага (1953г.) пленума ЦК КП(б)Б, на якім па прапанове Л.Берыі належала зняць з пасады першую партыйную асобу рэспублікі, рускага па паходжанні М.Патолічава, і замяніць яго беларусам М.Зімяніным, у дакладзе апошняга, і то без усялякай канкрэтызацыі, будзе заяўлена, што моладзь станавілася "на варожы савецкаму народу шлях пад уплывам контррэвалюцыйнай агітацыі".

Многіх таленавітых настаўнікаў не далічыліся мы ў выніку бандыцкіх дзеянняў атрадаў Арміі Краёвай, падначаленай польскаму эмігранцкаму ўраду ў Лондане. Пасля афіцыйнага разрыву ў жніўні 1943 года дыпламатычных адносін паміж СССР і Польшчай гэта армія паводзіла сябе на нашай тэрыторыі як сапраўдная варожая сіла і нават сям-там мела падтрымку ад фашысцкай акупацыйнай улады. Але найбольш масавае паляванне на настаўнікаў яны распачалі ў той час, калі ўжо Беларусь была вызвалена ад ворага і прыступіла да аднаўлення разбураных гарадоў і вёсак. Выбіралі самых актыўных, адданых сваёй справе людзей з ліку работнікаў народнай адукацыі.

Ефрасіння АНДРЭЕВА,
прафесар, доктар педагагічных навук,
Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук.

Народная газета

# Найвялікшае злачынства — сеяць варажнечу між народамі

## Ніл ГІЛЕВІЧ, народны дэпутат Беларусі

У мінулую пятніцу, выступаючы з трыбуны сесіі, дэпутат Сарокін патрабаваў ад Старшыні Вярхоўнага Савета стварыць яшчэ адну парламенцкую камісію. Для чаго? Для расследавання, цытую, "фактов пропаганды в средствах массовой информации национализма". Беларускага, вядома. У выніку гэтага расследавання, цытую далей, "оценить роль постоянной комиссии под руководством народного депутата Гилевича. О выводах и предложениях доложить Верховному Совету". Гэта — па-першае. Па-другое, дэпутат Сарокін прадпісвае Старшыні Савета Міністраў, цытую, "рассмотреть целесообразность нахождения на должности министра образования спадара Гайсенок". (Між іншым, і па-руску ў родным склоне трэба гаварыць: спадара Гайсёнка.)

Чым жа так правініліся міністр і старшыня камісіі? Тым, што навукова-метадычны часопіс "Пралеска" змясціў публікацыю, шкодную для інтэрнацыянальнага выхавання дзяцей. Мушу заявіць адназначна: я рашуча супраць таго, каб у беларускіх дзяцей, і не толькі ў дзяцей, абуджаць антырускія настроі. Я заўсёды лічыў і лічу найвялікшым злачынствам — сеяць варажнечу паміж людзьмі і народамі. Не сумняваюся, што і міністр Гайсёнак стаіць на гэткіх жа пазіцыях. Як не сумняваюся і ў тым, што пазначаная публікацыя — толькі фармальны повад для каманды "У атаку!". Не паявіся гэта публікацыя — знайшлі б нейкі повад іншы. Тым больш што ў сённяшняй сітуацыі людзі лёгка зрываюцца і абнародуюць нямала палітычна няўзважаных заяў і проста глупстваў.

Сапраўдная мэта тых, ад чыйго імя выступіў дэпутат Сарокін, — спыніць працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Пакуль ён не набраў сілу — з ім трэба пакончыць! А то і сапраўды можна страціць такі прывабны кавалак "единой и неделимой". Значыць, пара дзейнічаць практычна і канкрэтна.

Апетыт, як вядома, прыходзіць у час яды. Апетыт, відочна, нарастае. Скінулі двух міністраў — мала! Трэба скінуць трэцяга — міністра адукацыі. Скінулі Старшыню Вярхоўнага Савета — мала! Трэба ўзяцца за старшынь пастаянных камісій. Хоць за аднаго — для пачатку. Які раз'ятраны ў таварышаў апетыт! Зусім, як на пачатку 30-х!..

Канешне ж, аднаго дробнага факта мала, каб разгарнуць франтальнае наступленне і здзейсніць свае намеры. Таму робіцца абагульненні маштабныя — на ўсю рэспубліку. А іменна: на Беларусі, паводле дэпутата Сарокіна, аказваецца, існуюць і дзейнічаюць цэлыя "национал-фашистские движения", лідэры якіх "активно ведут оголтелую идеологическую обработку молодежи, школьников, студентов"... Ах, гэтыя знаёмыя фразачкі газетных перадавіц! Як яны за 70 гадоў збрыдзелі душы чалавечай! Але да пытання пра нацыянал-фашызм мы яшчэ вернемся. Цяпер жа я паспрабую патлумачыць, чаму мішэнню атакі выбраны іменна міністр адукацыі і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета, якая пытаннямі адукацыі займаецца.

Таварышы-суддзі адчулі першыя рэальныя крокі на шляху аднаўлення беларускай школы ў Беларусі — і спалохаліся, узрушыліся. Закрычалі: Не дапусцім! Не дадзім! Здымем міністра, раз ён не сабатуе, а выконвае Закон аб адукацыі! Паставім другога, свайго — такога, як незабыўная Еўдакія Уралава, якая не ведала і двух слоў па-беларуску, але кіравала адукацыяй у нас ажно гадоў дзесяць. Таварышы выдатна разумеюць: будзе беларуская школа — будзе ўсё: і беларуская мова і беларуская культура, і беларускае справаводства, і беларуская нацыянальная і гістарычная самасвядомасць, і як вынік — будзе беларуская дзяржава. У тысячны раз пытаюся ў грамадзян — такіх, як дэпутат Сарокін: ці ведаеце вы, што к пачатку 80-х гадоў ні ў адным горадзе, ні ў адным гарадскім пасёлку, ні ў адным рабочым пасёлку на Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы? Ні школы, ні класа, ні паўкласа, ні чвэрцькласа! Ведаеце? Дык чаму вы не крычалі тады, што за гэта злачынства перад народам трэба зняць з пасады і міністра адукацыі, і старшыню камісіі Вярхоўнага Савета, і сакратара ЦК, і ўсіх іншых, па чыёй віне яно тварылася? Вы не крычалі, таму што вас цалкам задавальняла гэта. Вы лічылі гэта зусім нармальным. Хіба не так? Скажыце: ну а калі б у Расіі ні ў адным горадзе не засталося ні адной рускай школы? Як бы вы на гэта паглядзелі? Гэта было б нармальна? Упэўнен, што ў гэту хвіліну сёй-той з нашых доблесных грамадзян падумаў: "Ну-у, сравнил! С великим и могучим русским он сравнил... Смешно!". А вось у гэтым "ну, сравнил", шаноўныя, і ёсць самы сапраўдны нацыянал-фашызм, — і не мае значэння, якога ён паходжання: нямецкага, ці італьянскага, ці рускага... Таму што такія пагардлівыя адносіны да мовы народа — гэта чысцейшай вады расізм, а расізм ляжыць у аснове фашысцкай ідэалогіі.

І вось цяпер, калі мы ўзяліся, з Божае ласкі, за адраджэнне сваёй мовы і культуры, за будаванне сваёй уласнай дзяржавы - вы, як і 60 гадоў назад, закрычалі пра разгул беларускага нацыянал-фашызму на Беларусі. І ў чым жа яго, гэты нацыянал-фашызм, вы ўбачылі? У тым, што аднаўляюцца, у свой час гвалтоўна зрусіфікаваныя, беларускія школы? У тым, што мы самі, не пад нейчую дыктоўку, а самастойна пішам аб'ектыўную, праўдзівую гісторыю свайго народа?

Шаноўныя дэпутаты! У 1931 годзе ў Мінску выйшла адна з самых подлых кніг у гісторыі беларускага кнігадрукавання. Называецца яна "Навука" на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі". У гэтай кнізе вы многа-многа разоў знойдзеце фразы "беларускі нацыянал-фашызм" і "беларускія нацыянал-фашысты". Гэта страшэннае кляймо ставілася на імёны самых сумленных, самых светлых, самых таленавітых, самых выдатных сыноў і дачок беларускага народа. На працягу некалькіх наступных гадоў — з 1931 па 1938 — тысячы кляймёных гэтым кляймом беларускіх інтэлігентаў былі рэпрэсіраваны і амаль усе загінулі — хто на Салаўках, хто на Калыме, а хто тут, у Беларусі, у такіх урочышчах, як Курапаты. У тым ліку пайшлі ў магілу многія з тых, хто памагаў "суддзям", і з тых, што гэты зверскі, самапраўны суд чынілі. Як, напрыклад, і рэдактар гэтай жахлівай кнігі. (Дарэчы, яе трэба перавыдаць, дый масавым тыражом, каб кожны мог пачытаць і ўбачыць, да якіх маштабаў быў даведзены ў нас пагром нацыянальнай інтэлігенцыі, як пачынаў ажыццяўляцца на Беларусі нацыянальны генацыд.)

І вось, здаецца, гісторыя вяртаецца "на кругі свая". Дакладней, яе хочуць павярнуць туды — назад, да 37-га. Лозунг гатовы даўно: "Смерць беларускаму нацыяналізму!" — што трэба чытаць, як "Смерць нацыянальнаму адраджэнню Беларусі!" Пачалося і ажыццяўленне лозунга на практыцы. Свае прапановы зрабіў і дэпутат-генерал Сарокін: стварыць камісію Вярхоўнага Савета па вывучэнню фактаў прапаганды беларускага нацыяналізму і вызваліць ад займаемых пасад народнага дэпутата Гілевіча і міністра адукацыі Гайсёнка.

Шаноўныя дэпутаты! Дазвольце і мне выказаць просьбу і да вас, і да Старшыні Вярхоўнага Савета. У інтэрв'ю газеце "Звязда" былы член палітбюро расійскай кампартыі прафесар Антановіч сваё вяртанне ў родны дом, у Беларусь, патлумачыў тым, што "расійскія камуністы пайшлі ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму". Красамоўнае прызнанне! Гэта — у Рэсіі. У нас жа, у Беларусі, не толькі камуністы, але і многія іншыя, партыйныя і беспартыйныя грамадзяне, як ішлі, так і ідуць у гэты самы запаветны бок, ваяўніча выступаюць з пазіцый вялікадзяржаўнага шавінізму. У многіх газетах, што выходзяць у Беларусі, у тым ліку і за дзяржаўны кошт, змяшчаюцца публікацыі, у якіх абражаецца нацыянальнае пачуццё беларуса, зневажаецца сама Рэспубліка Беларусь, яе дзяржаўныя сімвалы. У гэтых публікацыях сцвярджаецца, што беларускага народа наогул ніколі не было і няма, што беларуская мова — толькі дыялект рускай, што ўтварэнне незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь — нонсенс, які трэба ліквідаваць, і г.д. і г.д. Усё гэта, як вы разумееце, спрацоўвае адпаведным чынам — а іменна: глыбока крыўдзіць беларусаў, абражае нацыянальную годнасць народа, а з крыўды і абразы нічога, апрача адчужэння і варожасці, не вырастае. Дык хто ж сее ў нашым грамадстве нацыянальную варажнечу? Хто займаецца прапагандай нацыянал-фашызму ці шавінізму? — як яго ні назаві, гэта адно і тое ж: нялюдская, антычалавечая ідэалогія.

Нягледзячы на ўсё гэта, яшчэ ніводзін сумленны рускамоўны грамадзянін не адчуў, што яму, ратуючыся ад нацыяналістычнай небяспекі, трэба з Беларусі ўцякаць. Не адчуў і не адчуе! Такой небяспекі ні для якой нацыянальнай меншасці ў нас няма і не будзе. Небяспеку можа адчуць толькі той, хто лічыць, што цярпенне беларускага народа можна выпрабоўваць бясконца.

Вось чаму прашу Старшыню Вярхоўнага Савета стварыць парламенцкую камісію па расследаванню фактаў прапаганды ў сродках масавай інфармацыі вялікадзяржаўнага шавінізму і распальвання настрояў, варожых да Беларускай дзяржавы і яе законаў.



Малюнак Міхася ГІРГЕЛЯ

## *Нам пішуць...*
## *Нас пытаюць...*

**Сп. выдавец і рэдактар!**

**Калі ласка, надрукуйце некалькі слоў адносна заўвагі сп. С. у папярэднім № газэты... Запраўды, беларуская эміграцыя ў сваёй аснаўной масе «заплесьнелая». У параўнаньні з нашымі суседзямі, мы самыя адсталыя ў ваўсіх напрамках грамадзкае, палітычнае і культурнае дзейнасьці. (Вынятак можа БІНІМ ды Лёнданская бібліятэка). Ці-ж ня соромна нам, што ня можам выдаваць хоць адну тыднёвую газэту ў Заходнім сьвеце?! Скажы пра гэта і зараз-жа пачуюцца крыкі з усіх бакоў: нас мала, мы бедныя, мы ня ў стане і таму падобнае... І ўсё гэта лухта...**

**Трэба нарэшце шчыра прызнацца, што мы шмат чаго ня ўмеем, што ў душы сваёй надалей застаёмся рабамі... і што ня хочам нічому новаму вучыцца... Так як у сёньняшняй Беларусі баяцца і няўмеюць перайсьці на новы лад жыцьця...**

**Р.**

...І я з гэтым пагаджаюся!..

**Сп. рэдактар!**

**Нядаўна вурнуўся з 'бізнэсовае' паездкі ў Латвію, Жамойць і Польшчу. *Мае калегі ў Жамойці казалі мне: глянь на навакольле Вільні,* — гэтаж вашыя людзі... а што за адсталасьць!, яны-ж нават ня ведаюць хто яны, ніто «нядзельныя палякі», ніто «савецкія чалавекі», ніто тутэйшыя... І гэта ў цэнтры Эўропы! Прыходзілася лыпаць вачамі...**

**А ў Польшчы? Праваслаўная царква заміж служыць насельніцтву Беласточчыны, якое ў аграмаднай большасьці беларускае, толькі і ведае насельніцтва гэтае прасьцяцкім чынам «русыфікаваць»... А тым часам польскія ксяндзы занадзіліся ў Беларусь і не дзеля абслугованьня каталіцкага насельніцтва Беларусі, а насаджваць там усімі сіламі і няпраўдамі пальшчызну... Што гэта з намі творыцца?!.**

**Ш.**

Ды нічога ня творыцца, і гэта самае страшнае. І ў Беларусі, і ў Жамойці, і ў Амэрыцы і г. д. можна без цяжкасьці пабачыць польскія (гэта для прыкладу) сьцягі і арлы... А ці пабачыў Ты хоць дзе ў Польшчы, Жамойці ці Латвіі беларускія сьцягі ды Пагоню? Нашыя людзі яшчэ і сёньня ня могуць пазбыцца пачуцьця няпоўнацэннасьці і нейкага невытлумачальнага страху. Пакуль-што няма ў нас разумных і адважных лідэраў-патрыётаў!!!

**Іздацель!**

**...А вот мне твая газета не наравітца...**

А нібы чаму яна мае табе «наравітца»?! Я ведаю, што ты ўжо даўно чытаеш газэты, якія табе «наравятца»... Я-ж табе нашае газэты ня высылаю... Прадаўжай, на здароўе, чытаць тое, што табе падабаецца...

Шаноўны Сп. Прускі!

Я атрымаў ужо пяты нумар Вашага выданьня "Беларускі Дайджэст". Дзякую!.. На маю думку, гэта не часапіс, а газэта... Акрамя таго, мне не падабаецца "ўпіханьне" ў нашу мову словаў з чужых моваў, як і ўжыты Вамі "дайджэст"... А ці ня час пазнаёміць беларускае замежжа з новаю Канстытуцыяй Беларусі? Хоць у вытрымках...

Я. З.

Дзякую за ліст... Што да Канстытуцыі, дык будзем старацца яе абнародаваць...

Да ведама Беларусаў у ЗША.

У Ню Ёрку існуе Генконсульства Беларусі, якое выконвае ўсе консульскія дзеяньні ў дачыненьні да Беларусі, у тым ліку:

1. Афармленьне візаў у Беларусь;
2. Афармленьне даверанасьцяў і іншых дакумэнтаў грамадзянам, якія жывуць у ЗША., дзеля выкарыстаньня гэтых дакумэнтаў у Беларусі;
3. Афармленьне запросін грамадзян Беларусі ў госьці або на сталае жыхарства ў ЗША;
4. Афармленьне дакумэнтаў дзеля стварэньня сумесных прадпрыемстваў;
5. Прыём на консульскі ўлік, пацьверджаньне і набыцьцё грамадзянства Рэспублікі Беларусь, ды іншыя консульскія паслугі.

Адрас Генконсульства ў Ню Ёрку:
Consul General
of the Republic of Belaruś
708 Third Avenue, New York, N.Y. 10017
Tel: (212) 682-5392
Fax: (212) 682-5491




Рисунок Олега ПОПОВА.

## ПАВЕЯЛА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

**„Маўляў, з дзяленне грошай пачынаецца дзяленне дзяржавы", — гаворыць міністр Ягела („Ніва" ад 7. 03. 1994 г.). Калі не хапае аргументаў, паяўляецца дэмагогія. Ну і як бараніцца перад такім закідам! Але і без дзяльбы грошай насельніцтва Беласточчыны і так падзелена: усе фінансы ідуць на культуру большасці, а на беларускую — кропля. Ці ж беларусы не з'яўляюцца грамадзянамі Рэчыпаспалітай?**

**Дзіўна, што дэмакратычная дзяржава не можа выпрацаваць пастаянную *палітыку ў адносінах да меншасцяў. І хаця тых меншасцяў у краіне жменька, дык праблемаў узнікае даволі многа.* Улады розных узроўняў не бачаць, што падтрымка меншасцяў — гэта чысты дзяржаўны інтарэс.**

*"НІВА"* **МІХАСЬ МАХНАЦКІ**



**Сьвятой † Памяці**

ІРМА ВАЛАТОЎСКА

7. 4. 1938 — 28. 1. 1994

28-га студзеня 1994 году адыйшла ад нас на вечны супакой **Ірма Валатоўскі**. Хварэла рэдка, але прыйшоў той час, — вечарам легла і заснула вечным сном. Мікола Валатоўскі — муж Ірмы і бацька чацьвярых дзяцей зараз-жа склікаў усю сям'ю...

Паховіны сьв. Памяці Ірмы Валатоўскі адбыліся 31-га студзеня, 1994 году з пахароннага Дому Нэілс Вуддэл, Ільяноіс. Пратарэй а. Алег Мірановіч адправіў паніхіду. Затым цела пакойнай Ірмы было адвезена на сямейны ўчастак — Элмвуд Сэмэтэры, Ільяноіс. Праважалі Ірму на вечны супачынак: сям'я, прыяцелі і знаёмыя.

Пакінула Ірма ў вялікім смутку роднага бацьку і матку, мужа Міколу Валатоўскага, сына Колю, тры замужнія дочкі і двое ўнукаў. Аставіла таксама брата па мужу Васіля, удаву Зінаіду і іншых родных.

Сьв. Памяці Ірма была добраю жонкаю, маткаю і бабкаю...

Сьпі спакойным сном дарагая жонка, мама, бабка ўнукаў. Хай будзе Табе пухам Амэрыканская зямля!

Вечная Памяць!!! Пятро Негода

## Беларуская нацыя — не толькі беларусы

**Арганізацыйны савет "Беларускага згуртавання вайскоўцаў", утвораны адразу пасля ліквідацыі аб'яднання, распаўсюдзіў сваю заяву па нацыянальнаму пытанню ў Беларусі.**

У заяве сказана, што ў нацыянальным пытанні БЗВ прытрымліваецца еўрапейскага падыходу, згодна з якім паняцці "нацыя" і "народ" супадаюць. Людзі розных этнічных груп, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, не маглі не набыць пад уплывам навакольнага асяроддзя рысы, уласцівыя беларусам. "Таму ў Беларусі жывуць не проста палякі, яўрэі ці, напрыклад, татары, а беларускія палякі, беларускія яўрэі, беларускія татары, якія разам з беларусамі і складаюць беларускую нацыю", — сказана ў заяве. Яе аўтары лічаць культуру нацыянальных меншасцей састаўной часткай беларускай культуры.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ**

**Белінфарм.**

*"Народная Газета"*